© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 40 (200) 5 кастрычніка 1994 г. Кошт — 40 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**○ ДА ЎСІХ АРГАНІЗАЦЫЙ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ, ДА ЎСІХ, КАГО ХВАЛЮЕ АДРАДЖЭННЕ РОДНАЙ МОВЫ.**

26 верасня адбылося пашыранае пасяджэнне сакратарыята ТБМ імя Ф.Скарыны. Вёў пасяджэнне Старшыня ТБМ Ніл Гілевіч. Было абмеркавана пытанне «Аб далейшай рабоце арганізацый ТБМ па ажыццяўленню статутнай дзейнасці». Прынята пастанова аб правядзенні пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ у сярэдзіне лістапада г.г. На абмеркаванне будуць вынесены два пытанні: «Аб стаўленні ТБМ да ажыццяўлення дзяржаўна-моўнай палітыкі», «Задачы ТБМ у перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы».

Сакратарыят ТБМ прызнаў неабходным звярнуць увагу ўсіх арганізацый ТБМ, усіх, каго хвалюе лёс нашай роднай мовы, на неабходнасць актывізацыі работы па садзейнічанні выканання Закона аб мовах, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе магчымыя сродкі. У гэтай сувязі лічым неабходным правесці ў бліжэйшы час канферэнцыі, сходы, другія мерапрыемствы, на якіх абмеркаваць стан работы і вызначыць асноўныя напрамкі дзейнасці. Просім даслаць на наш адрас (220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13, ТБМ) кароткую інфармацыю, а таксама прапановы і пажаданні, якія выказаны актывістамі ТБМ.

Лічым неабходным завяршыць да канца года стварэнне абласных арганізацый ТБМ у Гомельскай, Віцебскай, Брэсцкай і Менскай абласцях.

Даведка: Канферэнцыя па стварэнню Гомельскай абласной арганізацыі адбудзецца 12 кастрычніка г.г.

Сакратарыят ТБМ звяртаецца да ўсіх журналістаў, рэдактараў газет, супрацоўнікаў радыё і тэлебачання больш актыўна садзейнічаць арганізацыям ТБМ у іх высакароднай справе адраджэння нашай роднай мовы, нашай нацыянальнай культуры.

**Сакратарыят ТБМ.**

*○ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ ПРАЦЫ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Як заўсёды з зайздроснай упартасцю дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі спрабавалі ўключыць пытанне аб пераглядзе дзяржаўнай сімволікі. Нічога ў іх не атрымалася.*

**○ У АДНОЙ З НОВЫХ ШКОЛ БРЭСТА** бацькі першакласнікаў катэгарычна выступілі супраць навучання іх дзяцей на беларускай мове. Пасля шумных сходаў у школе, сустрэч з прадстаўнікамі аддзела народнай адукацыі выйсце са становішча так і не было знойдзена. У выніку бацькі шасці першых класаў накіравалі тэлеграму Прэзідэнту Беларусі. Што ж ім адкажа Аляксандр Рыгоравіч?

---

*«ЗАРАЗ ЧАМУСЬЦІ НАСТАЎ ТАКІ ПЕРЫЯД, КАЛІ ІДЗЕ МАСАВАЯ ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ЛЕКСІКІ З УКРАІНСКАЙ МОВЫ».* *Стар. 3.*

*СЛАВА ВОРШЫ ЎЖО НЯ ГОРША...* *Стар. 7.*

*ЗАГАДКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА*

# ПРА ЧАЛАВЕЧУЮ ВОЛЮ І ЗАКОНЫ ПРЫРОДЫ

Гаварыць пра расіян (ці «рускіх»? нават — «рускамоўных»?) лепей за ўсё толькі ўхвальнае. А скажы хоць крыху крытычнае-аналітычнае, адразу ўсхопліваюцца абаронцы — ці то генералы-дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі, ці які СС, ці нават высокі дзяржаўны кіраўнік, а то і ўсе разам. Да яшчэ хто новы ці падфарбаваны залемантуе. Вунь грамадскае аб'яднанне ўзнікла — як быццам антыфашысцкае, але і з мэтаю змагацца з праявамі ... нацыяналізму. Хоць да гэтага часу ніхто належным чынам навукова не вызначыў — а што гэта па сутнасці за такое? Хоць бы ці адрозніваецца яно ад нацызму? Чаму ўзнікае? Дзеля чаго ўвогуле створана прыродай?

Ці вось у Індыі: нацыяналізм уваходзіць ажно другім (усіх пяць) пунктам лаяльных грамадзянскіх паводзін чалавека. Дык што, «крыжовы паход» на Індыю? Але ж толькі, здаецца, знакаміты ў апошні час Вольфавіч заклікае з ракетамі ды танкамі рушыць у тым накірунку — каб расійскія салдаты памылі свае боты ў водах Індыйскага акіяна. Расіі ж пакуль, здаецца, не да гэтага. Тут бы разабрацца з уласным «нацыяналістычным» «подбрюшьем» накшталт Таджыкістана ці яшчэ бліжэйшай Чачні.

У такіх вось абставінах наша суверэннае начальства выкарыстоўвае папулярную расійскую праграму тэлебачання з папярэдняй «пракруткай» па БТ, каб абвясціць запаветную «мару жыцця» — «воссоединить» рахманых беларусаў з «великим братским народом». Не будзем ламаць галаву — чаму толькі адным, калі іх там добры тузін з гакам. Не станем у каторы раз высвятляць: а дзеля чаго? Ну калі ў некага такая «мара жыцця», а пасада дазваляе? Была ж перад гэтым у Кебіча таксама «мара ўсяго жыцця» — завесці нас, недарэкаў, у райскую «рублёвую зону новага тыпу». Некалі дэпутат А.Лукашэнка тое горача падтрымліваў. А цяпер, Прэзідэнтам стаўшы, кажа расійскаму тэлежурналісту прынародна, што гэта было б, аказваецца, пятлёй на шыі беларускай эканомікі! А вось «воссоединение» ды знішчэнне беларускай адметнасці — новы рай? Можа, праз месяц... Можа, праз год... два... тры. І г.д.? Будзем зноў чакаць' Як той зоны? Ну нам чакаць не прывыкаць, нездарма нас расійскія журналісты пазначылі «краінай агуркоў». Гэта, відаць, па аналогіі са знакамітым раманам амерыканца Кэна Кізі «Над зязюліным гняздом»? Там апісваецца побыт дома для псіхаў, якія падзяляюцца на групы розных істот і раслін. Дык

*(Працяг на с. 4.)*

*У ГАЗЕТАХ*

## АСЦЯРОЖНА — ЛДПБ!

Менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» ( № 170, 8 верасня г.г.) змясціла кароткую гутарку свайго карэспандэнта Таццяны Лазоўскай з лідэрам Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (ЛДПБ) сп. Васілём Крывенкам. Назва матэрыялу — «Беларуская партыя клапоціцца аб расійскай дзяржаве» — красамоўна сведчыць сама за сябе. На чым жа засяродзіў увагу чытачоў папулярнай сталічнай газеты лідэр ЛДПБ? В.Крывенка цвёрда падкрэсліў, што яго партыя выступае «за аднаўленне вялікай Расійскай дзяржавы, але не паводле ленінскага прынцыпу, у аснове якога ляжыць права нацый на самавызначэнне, а паводле тэрытарыяльнага — губернскага дзялення».

Карэспандэнт спытала: «У выпадку прыходу да ўлады ЛДПБ суверэнную Беларусь чакае лёс Паўночна-Заходняга краю?..», «Ці не супярэчыць дзейнасць Вашай партыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, (яе) канстытуцыйна замацаванаму суверэнітэту і дзяржаўнасці?» Але суразмоўца ўхіліўся ад прамога адказу, заўважыўшы, што «суверэнітэт — гэта фальшывы лозунг, козыр нягоднікаў, для якіх нацыяналізм — апошняе схованка ў зямным шары».

Як бачым, партыя тутэйшых хаўруснікаў небезвядомага Уладзіміра Вольфавіча (язык не паварочваецца назваць яе «беларускай») выступае супраць суверэнітэту Беларусі, увогуле супраць дзяржаўнасці нашай Бацькаўшчыны, фактычна займаючы адкрытыя антыканстытуцыйныя пазіцыі. Дзіўна, што гэта прарасійская «пятая калона» афіцыйна зарэгістравана нашым Міністэрствам юстыцыі і дзейнічае абсалютна легальна. Але ўсе сумленныя грамадзяне павінны ведаць: ЛДПБ рэальна пагражае нацыянальнаму суверэнітэту Рэспублікі Беларусь!

## «МЫ ХОЧАМ ВЕДАЦЬ, ЯК ЖЫВЕ НАША КРАІНА»

Пад рубрыкай «Галасы дыяспары» «Звязда» ( № 177, 13 верасня г.г.) надрукавала гутарку Таццяны Антонавай з беларусам з Казахстана Міхаілам Наскаўцом, які падчас свайго нядаўняга наведвання Менска завітаў у рэдакцыю гэтай газеты. Госць паведаміў, што ён быў накіраваны на працу ў Казахстан у 1961 годзе пасля заканчэння Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. Цяпер сп. Наскавец — старшы навуковы супрацоўнік Казахскага навукова-даследчага інстытута эканомікі, жыве ў г.Алматы, валодае казахскай мовай, але не забывае, што ён — беларус. Наш зямляк дадаў заклапочана, што, жывучы больш за трыццаць гадоў далёка ад Бацькаўшчыны, ён увесь гэты час выпісваў беларускую прэсу, але апошні час пазбаўлены такой магчымасці. І раслумачый далей: беларуская дыяспара ў краінах так званага блізкага замежжа, у прыватнасці ў Казахстане, дзе налічваецца каля 200 тысяч беларусаў, фактычна не можа падпісацца на перыёдыку Рэспублікі Беларусь, хоць «мы хочам ведаць, як жыве наша краіна, мы адчуваем сябе яе сынамі і дочкамі». Выйсце сп. Наскавец бачыць у тым, каб праз «Звязду» звярнуцца да новага беларускага ўрада, да нашага Прэзідэнта, каб згаданае пытанне было, урэшце, станоўча вырашана.

Дарэчы, «Наша слова» ўжо неаднойчы пісала аб розных складанасцях пры падпісцы на газеты і часопісы нашай краіны, з якімі рэгулярна сустракаюцца беларусы, што жывуць па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Але, як і ўчора, на дзяржаўным узроўні гэта праблема застаецца комплексна не вырашанай. Колькі ж можна чакаць?

М. З.

*БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў ТРЫВОЖНЫ І СУПЯРЭЧЛІВЫ ЧАС* *Стар. 4.*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

*Прэс-бюлетэнь Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (вераснёўскі выпуск) паведаміў аб асноўных мерапрыемствах, ажыццёўленых у верасні— кастрычніку г.г. арганізацыямі і ўстановамі, падначаленымі міністэрству.*

* * *

5—24 верасня на факультэце кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі прайшлі мэтавыя курсы метадыстаў пачатковых класаў гарадскіх і раённых метадычных кабінетаў «Пераход на новы змест адукацыі».

*Факультэт педагогаў-дэфектолагаў ІПКіПКРіСА правёў у Магілёве з 5 па 24 верасня мэтавыя курсы класных кіраўнікоў агульнаадукацыйных, спецыяльных школ Магілёўскай вобласці «Парушэнні паводзін у дзяцей і іх псіхалагічная карэкцыя», на якіх комплексна аналізаваліся парушэнні паводзін у дзяцей: з медыцынскіх, псіхалагічных, педагагічных і сацыяльных пазіцый.*

Для выкладчыкаў вышэйшай школы і ІПК арганізаваліся «Псіхолага-педагагічныя аспекты навучальнага працэсу ў ВНУ», якія прайшлі ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі з 5 верасня па 1 кастрычніка.

*З 5 па 1 кастрычніка ІПКіПКРіСА адбываліся курсы для намеснікаў дырэктараў па вучэбна-вытворчай рабоце педагагічных вучылішчаў і каледжаў, індустрыяльна-педагагічных тэхнікумаў;*

*курсы для выкладчыкаў педагогікі педагагічных вучылішчаў і каледжаў;*

*мэтавыя курсы для выкладчыкаў музыкі з методыкай музычнага выхавання навучання ігры на баяне, акардэоне, народных інструментах, педагагічных вучылішчаў і каледжаў «Метадычныя і псіхолага-педагагічныя аспекты музычнага выхавання навучэнцаў»;*

*курсы для метадыстаў інстытутаў удасканалення настаўнікаў, навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання, адказных за цыклы гуманітарных прадметаў;*

*мэтавыя курсы для лектараў інстытутаў удасканалення настаўнікаў, настаўнікаў навучальных устаноў новага тыпу, творча працуючых настаўнікаў рускай мовы «Камунікатыўна-дзейсны падыход як галоўны прынцып выкладання мовы»;*

*мэтавыя курсы для загадчыкаў і метадыстаў дашкольных устаноў «Сучасныя тэхналогіі вывучэння, аналізу, ацэнкі дзейнасці педагогаў і шляхі ўдасканалення выхаваўча-навучальнага працэсу»;*

*курсы для псіхолагаў школ, якія не маюць падрыхтоўкі па спецыяльнасці;*

*курсы для выхавацеляў спецыяльных дашкольных устаноў (груп) для дзяцей з парушэннямі маўлення;*

*курсы для выхавацеляў спецыяльных школ-інтэрнатаў (школ) для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення, затрымкай псіхалагічнага развіцця;*

*курсы для выхавацеляў агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў (у тым ліку санаторных, для дзяцей-сірот, якія засталіся без апекі бацькоў);*

*курсы для музычных кіраўнікоў спецыяльных дашкольных устаноў усіх тыпаў.*

З 5 верасня па 8 кастрычніка факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў і выхавання ІПКіПКРіСА праводзіць заліковую сесію па курсах для сацыяльных педагогаў сярэдніх школ і пазашкольных устаноў.

*7 верасня Упраўленне дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі сумесна з Маскоўскім райана прыняў удзел у аглядзе дашкольных устаноў да новага навучальнага года і ў першую чаргу тых, дзе апрабіруюцца новыя тэхналогіі ў выхаванні, развіцці і навучанні дзяцей дашкольнага ўзросту.*

12—15 верасня лінгвісты, дыялектолагі, літаратуразнаўцы і фалькларысты рэспублікі сабраліся на рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры, фальклору» ў Гомельскі дзяржаўны універсітэт для абмеркавання надзённых праблем у галіне беларускай філалогіі.

*З 12 па 17 верасня факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў ІПКіПКРіСА правёў*

*мэтавыя курсы для загадчыкаў і метадыстаў дашкольных устаноў г.Бабруйска «Сучасныя тэхналогіі вывучэння, аналізу, ацэнкі дзейнасці педагогаў»;*

*мэтавыя курсы для выхавацеляў дашкольных устаноў г.Бабруйска «Шляхі гуманізацыі педагагічнага працэсу»;*

*аўтарскія курсы метадыста дзіцячага сада № 422 г.Менска Кішык А.М. (12—24 верасня, г.Менск).*

З 12 верасня па 1 кастрычніка факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы ІПКіПКРіСА запрасіў спецыялістаў упраўлення прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі, абласных і Менскага гарадскога ўпраўлення адукацыі на трэнінгавыя курсы «Тэхніка і тэхналогія справавых зносін», «Кампутарызацыя (інфарматызацыя) упраўлення адукацыі».

*13—17 верасня на базе Беларускага дзяржаўнага універсітэта прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Фізіка і тэхніка плазмы».*

19—22 верасня ў Наваполацку на базе Полацкага дзяржаўнага універсітэта адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Ахова водных аб'ектаў ад забруджвання пры аварыях».

*19—23 верасня на Нарачы Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыётэхнікі правёў Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Сучасная тэхналогія гібрыдных інтэгральных мікрасхем».*

З 19 па 24 верасня факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы ІПКіПКРіСА запрасіў на мэтавыя курсы педагогаў-даследчыкаў «Культура педагагічнага даследавання: фарміраванне ўменняў педагагічнага аналізу, дыягностыка і праграмаванне навучальна-выхаваўчага працэсу».

*Факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў ІПКіПКРіСА з 26 верасня па 1 кастрычніка правёў мэтавыя курсы для выхавацеляў дашкольных устаноў г.Брэста «Шляхі гуманізацыі педагагічнага працэсу».*

Факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў ІПКіПКРіСА з 26 верасня па 22 кастрычніка арганізоўвае для выкладчыкаў псіхалогіі і педагогікі дашкольных аддзяленняў педагагічных вучылішчаў і каледжаў мэтавыя курсы «Псіхалагічныя праблемы фарміравання асобы дзіцяці».

*З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ*

# САМАЕ ГАЛОЎНАЕ — ГАЗЕТА ВЫДАЕЦЦА НА РОДНАЙ МОВЕ

*Прывітанне, паважаная рэдакцыя газеты «Наша слова». Піша Вам Мінько Наталля, вучаніца 8 класа. Вучуся я добра, мінулы навучальны год закончыла на выдатна. Амаль год, як я выпісваю вашу газету, яна мне вельмі падабаецца, і самае галоўнае — яна выдаецца на беларускай мове. У ёй шмат карыснага, асабліва вучням і студэнтам. Праўда, ёсць нязручнасць — ваша газета друкуецца на суцэльным лісце паперы. Чаму? Я думаю, было б лепей, каб вы зноў друкавалі яе ў два лісты.*

**Наталля МІНЬКО.**

Шаноўная Наталля, дзякуем за шчырую ўвагу да «Нашага слова». Зараз газета перажывае не самы лепшы, калі не самы горшы, перыяд свайго існавання. Усяго не хапае, нават паперы. Нам удалося перавесці друкаваць газету ў «Беларускі Дом друку», у выніку чаго зніклі адны праблемы, а з'явіліся другія. Адна з іх — газета стала выходзіць неразрэзанай. Каб разрэзаць, трэба ўзяць нажніцы або іншы востры прадмет і правесці па верхняй складцы — гэта нескладана. Спадзяёмся, што ў бліжэйшы час гэта непатрэбна будзе рабіць. І наогул, супрацоўнікі рэдакцыі пастаянна працуюць над паляпшэннем афармлення газеты. Спрабуем перайсці на колер, удакладняем рубрыкі, рыхтуем новыя. А яшчэ марым, што некалі будзем здольныя выпускаць «Наша слова» з літаратурным дадаткам. Праўда, цяпер трэба толькі перажыць гэты нялёгкі перыяд у існаванні газеты. Спадзяёмся, што з вашай падтрымкай, нашы чытачы, мы перажывём усе цяжкасці.

Шаноўная Наталля, жадаем табе і тваім сябрам поспехаў у вучобе і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

**Рэдакцыя газеты «Наша слова».**

# «МЫ — ПРАЎНУКІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ»

Вечарына, прысвечаная Дню беларускага пісьменства і друку, прайшла ў Жлобінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Арганізаваная агульнымі намаганнямі работнікаў культуры раёна і мясцовай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны, яна сабрала тых, каму неабыякавы лёс нацыянальнай культуры, хто ганарыцца яе вялікімі здабыткамі.

Адкрыў вечарыну загадчык райаддзела культуры В.В.Гузаў, які выказаў упэўненасць у тым, што гэтае свята з цягам часу стане сапраўды народным, будзе ў ліку самых галоўных. На тым, што ўсіх нас наперадзе яшчэ чакае шмат працы на шляху Адраджэння, засяродзіў сваю ўвагу старшыня раённа-гарадской рады ТБМ М.В.Шуканаў. Не апускаць рукі, калі наша грамадства ўсё больш ахопліваюць бездухоўнасць, культ грошай, распаўсюджаны нігілізм да ўсяго нацыянальнага, заклікаў сабраўшыхся пісьменнік Аляксандр Капусцін. Нягледзячы на свой паважаны ўзрост і шмат ужо зробленае дзеля прапаганды роднага слова і гістарычнай памяці, ён запэўніў сабраўшыхся, што і надалей будзе актыўна працаваць на карысць агульнай справы.

На вечарыне таксама выступілі і прачыталі свае вершы мясцовыя паэты Марыя Смірнова і Павел Луд (радок з яго верша паслужыў назвай гэтага артыкула). Прыехалі ў Жлобін і самадзейныя артысты Шчадрынскага СДК — Галіна Семянец, Тамара Пакроўская, Лідзія Койка, Алена Крантоўская і Тамара Мітраховіч. Яны выканалі некалькі беларускіх народных песень.

Вялі вечарыну супрацоўнікі бібліятэкі Ларыса Фаміна і навуковы супрацоўнік раённага навукова-метадычнага цэнтра Галіна Горбач. За рэжысуру мерапрыемства адказвала супрацоўніца бібліятэкі В.С.Герт.

**М.Ш.**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА — АСНОЎНАЯ МОВА ДЗЕЙНАСЦІ АДУКАЦЫЙНАЙ СІСТЭМЫ

У апошні час у Міністэрства адукацыі паступілі звароты бацькоў і настаўнікаў па пытаннях ролі беларускай і рускай моў у адукацыйнай сістэме Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтымі зваротамі растлумачваем, што пазіцыя Міністэрства адукацыі па гэтых пытаннях вызначаецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», якімі беларуская мова вызначана як адзіная дзяржаўная мова ў краіне. Мы паслядоўна імкнуліся рэалізаваць прынцыпы артыкулаў 6 і 24 Законаў «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» і «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» адпаведна, якія абвясцілі беларускую мову асноўнай мовай дзейнасці адукацыйнай сістэмы. Разам з тым, як гэта неаднаразова падкрэслівалася, міністэрства арыентавала органы кіравання на рэалізацыю правоў бацькоў на навучанне дзяцей на рускай і іншых мовах нацыянальных меншасцей, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі. У адпаведнасці з вышэй указанымі законамі мясцовыя органы ўлады вызначылі ўмовы дзейнасці школ і асобных класаў у іх, вялі перападрыхтоўку настаўнікаў і заказ падручнікаў, навучальных дапаможнікаў і іншых сродкаў навучання.

Заклапочанасць Міністэрства адукацыі выклікаюць асобныя выпадкі спроб змяніць мову навучання ў класах, якія ўжо некалькі год працуюць на беларускай мове. У сувязі з гэтым просім правесці работу з бацькамі і растлумачыць ім наступнае.

Беларуская мова была і, як гэта вызначана законамі, застаецца асноўнай мовай дзейнасці нашай адукацыйнай сістэмы. Паступова пашыралася сфера функцыянавання беларускай мовы ў дзіцячых садах і агульнаадукацыйных школах. На гэтую мову пачала і будзе і далей пераходзіць сістэма прафесійнай адукацыі, у тым ліку і вышэйшая школа. Разам з тым, мы будзем паслядоўна выконваць патрабаванні законаў аб праве бацькоў навучаць дзяцей на роднай мове.

Будзе выконвацца патрабаванне Законаў «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» аб абавязковым вывучэнні рускай мовы, прычым аб'ём яе вывучэння будзе дазваляць усім выпускнікам школ (незалежна ад мовы навучання) авалодаць рускай мовай на ўзроўні, дастатковым для выкарыстання яе ў любых сферах дзейнасці, у тым ліку і для прафесійнага навучання, калі ў гэтым узнікне неабходнасць.

Раптоўная змена мовы навучання педагагічна немэтазгодна, бо пацягне значныя праблемы для вучняў, на пэўны час замарудзіць працэсы засваення ведаў, інтэлектуальнага развіцця дзіцяці. Органы кіравання адукацыяй не змогуць забяспечыць класы, якія змянілі мову навучання з беларускай на рускую, падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі, бо не маюць іх у дастатковай колькасці. Ёсць і іншыя адмоўныя вынікі такой змены мовы навучання.

Міністэрства адукацыі рэкамендуе павялічыць выкарыстанне гадзін школьнага кампанента для задавальнення запытаў вучняў і іх бацькоў на пашыранае вывучэнне рускай мовы, уводзіць для жадаючых спецыяльныя курсы, праводзіць факультатыўныя заняткі і заняткі па выбары.

«Настаўніцкая газета», № 73, 10 верасня.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ВЫСНОВЫ

## Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы

У апошні час у беларускай літаратурнай мове склалася вельмі небяспечная для яе сітуацыя. Існуючыя нормы і прынятыя правілы, замацаваныя шматгадовай практыкай і пашыраныя ў розных сферах яе ўжывання, пачалі масава парушацца. Пачалося зусім свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне ў практыку ўжывання мовы, асабліва ў друку, іншых моўных нормаў і правілаў. У выніку ў літаратурнай мове абазначылася фактычнае суіснаванне дзвюх практычных нарматыўных арыентацый.

Гэта ёсць разбурэнне самой літаратурнай мовы і дэзарганізацыя ў сферах яе практычнага ўжывання і пашырэння.

Вынікам працяглай і нялёгкай працы камісіі з'явіліся прапановы па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, апублікаваныя для шырокага абмеркавання. Па многіх пытаннях правапісу ў камісіі быў дасягнуты пэўны кампраміс або згода адкласці іх абмеркаванне і вырашэнне. Не дасягнута было адзінства толькі ў адносінах ужывання мяккага знака на пісьме і ў прыватнасці для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. Гэта галоўная праблема сучаснага разнабою ў правапісе, і ёй была ўдзелена ў рабоце камісіі вялікая ўвага. На грамадскае абмеркаванне было вынесена чатыры варыянты яе канкрэтнага вырашэння.

Грамадскае абмеркаванне прапаноў камісіі паказала, што адназначнай падтрымкі не атрымаў ні адзін з распрацаваных варыянтаў вырашэння праблемы асіміляцыйнай мяккасці зычных. Не атрымала належнай падтрымкі само мовазнаўчае мерапрыемства па ўдакладненню і змяненню правапісу. Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці лічаць, што ў сучасных умовах дзяржаўнай неўпарадкаванасці, палітычнай раз'яднанасці грамадства і эканамічнай нестабільнасці ў рэспубліцы гэта з'яўляецца несвоечасовым і немэтазгодным. Наяве крайне неспрыяльныя ўмовы для ўнясення істотных змен у правапіс, калі símbolo нават іх апраўданасць у інтарэсах самой мовы і не выклікае сумненняў. Праводзіць рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы можна будзе толькі тады, як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць. Небяспекі ў такім стрыманым падыходзе да вырашэння гэтай праблемы няма, бо наогул мова не належыць да тых катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешлівасць. Сёння найвялікшая наша бяда не ў тым, што правапіс недасканалы, а ў тым, што ўвогуле беларускай мове, нягледзячы нават на яе дзяржаўны статус, усё яшчэ пагражае асіміляцыя і паглынанне з боку мацней усталяванай у нас мовы міжнацыянальных зносін, што становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсё яшчэ досыць кволае. На думку многіх рупліўцаў роднага слова, актуальнай задачай з'яўляецца зараз пашырэнне беларускай літаратурнай мовы ў грамадскіх зносінах. Змяненні ж у правапісе цягнуць за сабой не толькі матэрыяльныя выдаткі, затраты значнага часу на іх пашырэнне і ўкараненне, але і зніжэнне прэстыжу беларускай літаратурнай мовы, тэмпаў яе пашырэння ва ўжыванні. Ды і змяненні ў правапісе непазбежна вядуць да нестабільнасці яе самой.

Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы прапануе:

1. Працягваць у рэспубліцы навукова-метадычную працу па ўдакладненню і ўдасканаленню правапісу беларускай літаратурнай мовы, а таксама па яе граматычнай і лексічнай нармалізацыі і стабілізацыі і па культуры маўлення, для чаго мэтазгодна, як гэта і прадугледжана пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 мая 1994 г., утварыць пастаянна дзеючы Рэспубліканскі навукова-каардынацыйны савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі з належнымі рэкамендацыйнымі і кантрольнымі паўнамоцтвамі ў адпаведнасці з Законам «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

2. Акадэміі навук Беларусі і Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь да канца 1995 года падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (з дадаткам правілаў беларускай арфаэпіі), дзе былі б улічаны вынікі работы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы і іх грамадскага абмеркавання.

3. Да прыняцця новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», дзеля захавання стабільнасці беларускай літаратурнай мовы, ухілення ад існуючай зараз правапіснай неаднастайнасці ў сродках масавай інфармацыі строга прытрымлівацца «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», зацверджаных Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР (Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959).

ФІЛАЛОГІЯ

# ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА: СТВАРАЮЦЬ МАЙСТРЫ, МОВАВЕДЫ ДАСЛЕДУЮЦЬ

***(ГУТАРКА З ДЫРЭКТАРАМ ІНСТЫТУТА МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА, ЧЛЕНАМ-КАРЭСПАНДЭНТАМ АКАДЭМІІ НАВУК А.І.ПАДЛУЖНЫМ)***

*«Зараз чамусьці настаў такі перыяд, калі ідзе масавая запазычанасць лексікі з украінскай мовы».*

**— Аляксандр Іосіфавіч, пасля нашай апошняй сустрэчы прайшло больш года. Чым на сённяшні дзень жыве інстытут?**

— 1994 год — адзін з самых напружаных у нашым жыцці. Па розных прычынах. У інстытуце выконваюцца вельмі складаныя работы, якія патрабуюць шмат часу, а галоўнае добрых спецыялістаў. Трэба сказаць, што за апошні год іх у нас значна паменшала.

**— Чаму?**

— Ніжэй зарплаты не бывае. Малодшыя навуковыя супрацоўнікі разышліся ва ўладныя структуры, дзе зарплата значна вышэйшая. Што да высокакваліфікаваных спецыялістаў, то яны вымушаны пераходзіць на выкладчыцкую работу.

**— Якімі фундаментальнымі навуковымі работамі заняты зараз супрацоўнікі інстытута?**

— Яшчэ з 1985 года мы ўзялі асноўны напрамак на работы фундаментальна-прыкладнога характару. У першую чаргу я хацеў бы назваць «Граматыку беларускай мовы». Першая выйшла ў 1963—66 гадах. Цяпер яна фактычна ёсць толькі ў бібліятэках. Другая ж была выдадзена ў 1985—86 гадах, але такім мізэрным тыражом, што нават некаторыя аўтары не паспелі яе набыць. Думалі напачатку яе перавыдаць, але пасля параіліся і пагадзіліся на тым, што ў практычных мэтах зараз патрэбна граматыка вельмі кампактная, аднатомная. Менавіта такую мы і рыхтуем.

**— Уласнымі сіламі?**

— Не зусім. У сувязі з недахопам кадраў нам гэта не ўдалося. Вымушаны былі запрасіць работнікаў Белдзяржуніверсітэта і педагагічнага універсітэта. Безумоўна, аплаціць ім гэтую работу мы не можам, таму тут узнікаюць цяжкасці, як давесці справу да канца. Што да той часткі, якую менавіта робім мы, то яна ў чарнавым выглядзе ў гэтым годзе будзе ўжо завершана. Лічым, гэта выключна важная работа, паколькі цяпер знаходзіцца ў такім хаатычным стане не толькі лексіка, але і граматыка. Яшчэ раз уважліва перагледзелі апісальную граматыку 1963 года, у якой была вельмі падрабязна пададзена варыянтнасць усіх зменных слоў, адлюстраваная ў мастацкай літаратуры. Там не даецца строгіх рэкамендацый, але, на маю думку, і на гэты раз асабліва строгіх рэкамендацый даваць не будзем. Цяпер з'явілася некалькі работ, дзе прыводзіцца статыстыка не толькі тых форм, якія ўжываюцца ў літаратуры пасля 1933 года, але ўжываліся і да 1933 года. У кніжку ўключаецца таксама важны даведачны матэрыял для кожнага, хто карыстаецца беларускай мовай, і безумоўна будзе нейкая арыентацыя пры падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы школьных падручнікаў.

У бліжэйшы час плануем выдаць аднатомны тлумачальны слоўнік беларускай мовы прыкладна на 60 тыс. слоў, разлічаны на масавага чытача. Там будзе ўжыта найбольш ходавая лексіка. Работа над такім слоўнікам зараз знаходзіцца ў стадыі завяршэння, а выданне яго плануецца праз год. Але з усімі гэтымі работамі звязана адна практычная праблема.

**— Менавіта якая?**

— Усе слоўнікі ствараюцца на аснове картатэк. Картатэка да так званага перабудовачнага перыяду няспынна папаўнялася. Зараз яна перасягнула 2 мільёны картак слоў. Цяпер у лексіцы адбываюцца важныя зрухі. Але, на жаль, зноў жа з-за адсутнасці сродкаў мы не можам папаўняць гэтую картатэку. Гэта фактычна ўжо ўдар па нашых будучых даследаваннях. Існуе памылковая думка, быццам бы мовавед ы ствараюць мову. Літаратурную мову ствараюць майстры слова — пісьменнікі, журналісты. Мовавед ы ж збіраюць гэта ўсё, даследуюць і апісваюць. Праўда, на аснове гэтага яны даюць пэўныя рэкамендацыі, што на іх думку лепей, а што горш. І тут, безумоўна, трэба адзначыць, што ў розныя перыяды працавалі людзі з рознымі моўнымі густамі. Часта крытыкуюць слоўнікі за тое, што там сустракаюцца яўныя русізмы. Гэтага ніхто не будзе адмаўляць, бо так яно і ёсць. Такое становішча можна выправіць і, безумоўна, трэба выправіць, але ўсё роўна і тыя русізмы, якія ў слоўніках сустракаюцца, часцей за ўсё бяруцца з мастацкіх твораў, з нейкіх пісьмовых тэкстаў. Картатэка — аснова нашай работы, і вельмі шкада, што мы яе зараз не можам папаўняць належным чынам.

**— А як з даследаваннямі, звязанымі з функцыяніраваннем дзвюх моў: рускай і беларускай?**

— Аб'яўленне беларускай мовы дзяржаўнай не азначае, што білінгвізм у нас закончыўся і што ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі і нават болей закончыцца. Таму ўзаемаўплывы гэтых дзвюх моў усё роўна будуць адчувацца. У гэтым накірунку мы праводзім таксама пэўную работу. У прыватнасці, у гэтым годзе завяршаем яшчэ адну важную працу. Гэта «Параўнальная фанетыка ўсходнеславянскіх моў»: рускай, украінскай, беларускай. Тут асаблівасць заключаецца ў наступным. Да гэтага часу параўнальная граматыка абапіралася больш на рускі матэрыял. У цэлым граматыка, якая ўлічвае асаблівасці рускай, беларускай, украінскай моў, ёсць, але яна не дае добрага ўяўлення адносна розніцы ў структурах гэтых трох моў. Мы вырашылі напісаць пакуль што толькі адзін раздзел — фанетыку, паколькі яна з'яўляецца найбольш устойлівай часткай мовы. Фанетычныя рысы, якія адрозніваюць гэтыя тры мовы, — моцны фундамент. Што да лексікі, то яна тут больш рухомая. Але важна адзначыць: лексіка беларускай мовы значна бліжэй да лексікі ўкраінскай. Зараз чамусьці настаў такі перыяд, калі наогул ідзе масавае запазычанне лексікі з украінскай мовы ў беларускую.

**— А калі дадаць сюды, што ідзе такое ж запазычанне з польскай мовы ў беларускую, то, відаць, існуе пагроза, што мы, адштурхнуўшыся ад рускай мовы, пазбавімся ўсіх русізмаў, а разам з тым акажацца, што беларуская мова — гэта зноў трасянка, але ўжо іншага характару?**

— Прыкладна так. Толькі, на жаль, шмат хто гэтага не разумее. Украінская і беларуская мовы ў свой час адчувалі польскі ўплыў, а руская такі ўплыў адчувала толькі праз беларускую мову і часткова праз украінскую. Гэта першае. Па-другое, дзве ўсходнеславянскія мовы проціпастаўляюцца адной рускай. Напрыклад, слова *напрыканцы* ў беларускіх дыялектах нідзе не зафіксавана, а зараз стала вельмі шырока ўжывацца. Хоць паняцце *напрыканцы* можна выразіць зусім іншымі спосабамі ў беларускай мове. Такім жа чынам было запазычана слова *імавернасць* — рускае *вероятность*. Як тэрмін яно прыжылося. Гэтае слова з украінскай мовы дакладна ўпісвалася ў тэрміналогію беларускай. Але я тут хачу падкрэсліць: бяда ў тым, што зараз ідзе запазычанне лексікі без разбору. Падмяняюцца не нейкія канкрэтныя лексемы, а цэлыя пласты лексікі. Мы выдалі адзін том параўнальнай марфалогіі дзвюх моў, а цяпер яшчэ плануем завяршыць і выдаць параўнальную лексікалогію дзвюх моў.

**— Вядома, што аддзелам славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства, які ўзначальвае Г.А.Цыхун, рыхтуецца скарочаны этымалагічны слоўнік, разлічаны на шырокага чытача. Чаму?**

— Сапраўды, мы яшчэ не завяршылі выданне этымалагічнага слоўніка ў 10-ці тамах і пачалі ўжо працу над аднатомнікам, разлічаным на шырокае кола чытачоў. Навуковы ўзровень яго не будзе зніжаны, але інфармацыя плануецца быць дастаткова поўнай. А гэта вельмі важна для кожнага, хто карыстаецца беларускай мовай. У ім будзе, акрамя этымалогіі, пададзена кароткая, але вельмі выразная сэнсавая характарыстыка таго ці іншага слова. Навуковая група працуе над гэтым слоўнікам вельмі інтэнсіўна.

**— А чым займаюцца зараз вашы дыялектолагі?**

— Нашы дыялектолагі выконваюць у практычным сэнсе не менш важную работу. Яны выдалі першы том лексічнага атласа. Магчыма, у наступным годзе выйдзе ўжо і другі том гэтай працы. Разам з тым дыялектолагі паралельна робяць серыю кніжак, якія мы ўмоўна называем «Лінгвістычныя ландшафты Беларусі». У іх тэматычна падбіраецца лексіка і апісваецца ў манаграфічным плане. Безумоўна, атлас дарагі, і тыраж яго не надта вялікі. Гэтае ж выданне значна дзешавейшае і больш даступнае. Кожны, хто любіць роднае слова, можа знайсці ў ім тую ці іншую лексіку, якую ён хоча ўжыць. Але існуе фінансавая праблема, каб выдаць такую кніжку. Бо гэта ўсё ж не вучэбная і не даведачная літаратура, і інстытуту даводзіцца дадаткова шукаць дзесяткі мільёнаў на яе выданне.

Працягваем працаваць таксама над «Гістарычным слоўнікам беларускай мовы». Яго нельга спыніць, бо гэта будзе вялікая страта для навукі. Ну, і само сабой, таксама пасільна ўдзельнічаем у штодзённай практычнай дзейнасці ў галіне мовазнаўства. Досыць часта нашы супрацоўнікі друкуюцца ў газетах па самых розных актуальных пытаннях.

**— У гэтым годзе працавала правапісная камісія, створаная пры Савеце Міністраў, у якую ўваходзілі вашы вядучыя спецыялісты. Вынікі ёсць?**

— Рабочая група гэтай камісіі складалася фактычна толькі з моваведаў. Мы перабралі дзесяткі варыянтаў па кожнаму пункту тых правіл, якія выносіліся на абмеркаванне, і, на жаль, лепшага, чым ёсць, нічога не змаглі прыдумаць. Акрамя таго, гэта знайшло адлюстраванне і ў тых лістах, якія былі дасланы ў камісію і надрукаваны ў перыядычных выданнях, у прыватнасці ў газетах і часопісах. Колькасць іх была вельмі вялікая. За кароткі тэрмін мы атрымалі звыш 150 лістоў. Гэтае грамадскае абмеркаванне таксама паказала, што многія, хто стаіць за хутчэйшае змяненне ў правапісе, таксама бачаць «дзіркі» ў гэтых змяненнях і не ведаюць, як іх залатаць. Рабочай групе прыходзілася шмат працаваць, каб кожны раз вынесці нешта талковае на пленарнае пасяджэнне камісіі. Работа на дадзеным этапе завершана, але яна спыняецца. Камісія прыйшла да высновы, што ніякіх карэнных змен зараз рабіць нельга. Ні з пункту погляду навуковага, ні з пункту погляду практычнага. Бо гэта сапраўды выклікала б каласальныя траты дзяржаўных грошай. Лепшага мы б нічога не зрабілі, а ў тым хаосе, які існуе не толькі ў правапісе, а і ў лексіцы, граматыцы, сінтаксісе гэта было б наогул страшна.

**— Што плануецца на бліжэйшыя перспектывы?**

— Трэба прыступаць да перавыдання «Нарматыўнага слоўніка беларускай мовы». Першае выданне выйшла пад кіраўніцтвам Мікалая Васільевіча Бірылы. У ім неабходна выправіць усе памылкі, якіх, на жаль, нямала. Акрамя таго, на аснове тых правіл правапісу, якія існуюць, можна і трэба прывесці ў адпаведнасць напісанне з вымаўленнем, удакладніць асобныя граматычныя формы. Ён будзе значна папоўнены лексікай за кошт слоўнікаў 20-х гадоў і «Беларуска-расійскага (Вяліка-літоўска-расійскага) слоўніка» Я.Станкевіча.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

М.П.КАСЦЮК

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў ТРЫВОЖНЫ І СУПЯРЭЧЛІВЫ ЧАС (канец 20-х — пачатак 40-х гадоў)

(Працяг. Пачатак у № 39.)

Тым не менш пастанова ЦК УКП(б) ад 5 студзеня 1930 г. «Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі дзяржавы калгаснаму будаўніцтву» арыентавала на далейшае павелічэнне тэмпаў. На месцах, у тым ліку ў Беларускай ССР, партыйна-дзяржаўныя органы, не лічачыся з канкрэтнымі ўмовамі, настойліва імкнуліся як мага паскорыць дадзены працэс. Ужо на студзеньскім (1930 г.) пленуме ЦК КП(б)Б прынялі рашэнне завяршыць калектывізацыю ўсіх бядняцка-сялянскіх гаспадарак да канца 1931 г. Але ў лютым 1930 г. бюро ЦК кампартыі Беларусі пайшло яшчэ далей: яно вырашыла калектывізаваць да веснавой сяўбы 75—80 працэнтаў сялянскіх гаспадарак. Займаючыся палітычным пражэкцёрствам, ЦК КП(б)Б адправіў 10 лютага 1930 г. у ЦК УКП(б) дакладную запіску з прапановаю прызнаць БССР рэспублікай суцэльнай калектывізацыі.

Жорсткі адміністрацыйны націск прывёў да нарошчвання тэмпаў калектывізацыі. Па стану на 1 сакавіка 1930 г. у БССР у калгасах лічыліся 457,5 тыс. сялянскіх гаспадарак. Яны складалі 58 працэнтаў іх агульнай колькасці. Для пачатковага перыяду прымусовай калектывізацыі буйной негатыўнай з'явай было масавае забойства і продаж хатняй жывёлы. Гэта было не так вынікам кулацкай агітацыі, як прадстаўляла справу афіцыйная прапаганда, як натуральнай рэакцыяй сялянства на неймавернае фарсіраванне тэмпаў калектывізацыі.

Калектывізацыя паўсюдна суправаджалася рэзкай актывізацыяй барацьбы з заможнымі сялянамі, так званымі кулакамі. На справе гэта вылілася ў палітыку раскулачвання. Прынятыя супраць кулацтва меры былі вельмі жорсткія. У выніку жорсткага націску на заможную частку вёскі да канца мая 1930 г. у БССР раскулачана 15 629 гаспадарак. Іх маёмасць перадавалася ў непадзельныя фонды калгасаў. Паспешлівасць у ажыццяўленні калектывізацыі прывяла да таго, што яна спачатку праводзілася без прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі, які павінен рэгламентаваць асноўныя моманты арганізацыі калгаснага жыцця. Ён фактычна з'явіўся толькі ў пачатку сакавіка 1930 г., калі фарсіраванне тэмпаў калектывізацыі зайшло ўжо вельмі далёка.

Вынікам усіх гэтых дзеянняў з'явіліся масавыя выхады сялян з калгасаў, што адбыліся вясною 1930 г. На працягу сакавіка-мая ў БССР з калгасаў выйшла 370,3 тыс. сялянскіх гаспадарак, а працэнт калектывізацыі ўпаў з 58 да 11,1. Гэта быў самы нізкі ўзровень калектывізацыі з таго часу, як яе зрабілі масавай і загадна-прымусовай. Але гэта не спыніла ажыццяўлення партыйнай лініі. Пастунова ўлады зноў прыступілі да правядзення сталінскай стратэгіі. Да канца 1930 г. у Беларускай ССР працэнт калектывізацыі зноў узняўся да 15.

Было зразумела, што калі тэмпы калектывізацыі не будуць дапаўняцца працай па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў, то развіваць з такой цяжкасцю ствараемы калгасны лад будзе немагчыма. Таму ўсё большая ўвага надавалася данаму накірунку дзейнасці. Прыярытэтнае месца тут займала механізацыя калгаснай вытворчасці. Гэта ажыццяўлялася ў форме стварэння машынна-трактарных станцый. Першая з іх у БССР — Койданаўская — узнікла ў 1929 г. У канцы першай пяцігодкі ў рэспубліцы налічвалася 57 МТС. Яны мелі каля 1,5 тыс. трактароў, некаторую іншую тэхніку. Аднак механізацыя грамадскай вытворчасці толькі пачыналася.

Аднак у справе па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў не абышлося без драконаўскіх сталінскіх мер. Гэта адносіцца ў першую чаргу да пастановы ЦВК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. «Аб ахове маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і кааперацыі і ўмацаванні грамадскай (сацыялістычнай) уласнасці». За самыя нязначныя правіннасці гэты «закон пяці каласоў», як яго празвалі ў народзе, прадугледжваў не толькі асуджэнне на тэрмін не ніжэй 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці, але нават «вышэйшую меру сацыяльнай абароны — расстрэл». На працягу 1933—1934 гг. толькі ў БССР па гэтаму антычалавечаму закону было асуджана больш за 10 тыс. чалавек.

Вынікам рэзкага спаду вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў у рэарганізацыйны перыяд, жорсткай нарыхтоўчай палітыкі, імкнення выконваць знешнегандлёвыя абавязацельствы для патрэб індустрыялізацыі, ігнаравання нават мінімальных патрэб сельскага насельніцтва ў прадуктах харчавання быў голад, які распаўсюдзіўся на Украіну, іншыя рэгіёны СССР, а таксама закрануў паўднёвую і цэнтральную частку БССР. Так, у Ельскім раёне ім былі ахоплены 3 сельсаветы, у Нараўлянскім — 6. Да сярэдзіны 1933 г. у гэтых сельскіх Саветах памерлі ад голаду 130 чалавек. Колькасць апухлых ад голаду сялян дасягала 230. Голадам былі закрануты частка калгасаў Гомельскага раёна, а таксама цэнтра Беларусі — Пухавіцкі раён, некаторыя мясціны вакол Менска і інш.

Складаныя палітычныя абставіны на вёсцы прывялі да стварэння палітычных аддзелаў машынна-трактарных станцый. Гэта рабілася ў адпаведнасці з рашэннем студзеньскага (1933 г.) аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК УКП(б). У Беларускай ССР было створана 72 палітаддзелы. Яны былі па сутнасці надзвычайнымі партыйнымі органамі. Разам з пазітыўнай работай па падборы і расстаноўцы кадраў яны праводзілі жорсткую класавую лінію, і метады іх працы пераважна былі націскныя. Палітаддзелы МТС праіснавалі да канца 1934 г.

Усе гэтыя меры садзейнічалі павышэнню паказчыкаў калектывізацыі. Ужо да канца 1934 г. яе працэнт узняўся да 72,6. Было абагульнена 4/5 пасяўных плошчаў. Калектывізацыя ў БССР была ў асноўным закончана. Аднак гэтая праца працягвалася. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ва ўсходніх абласцях рэспублікі ступень аграмаджаных сялянскіх гаспадарак дасягнула 93,4 працэнта, а па пасяўной плошчы — 96,2 працэнта. У гэты час у рэспубліцы налічвалася 132 саўгасы.

На працягу 1939—1940 гг. звыш 160 тыс. хутарскіх гаспадарак Беларускай ССР былі прымусова пераселены ў калгасныя цэнтры. Гэта было вынікам недаверу сталінскага кіраўніцтва да сялянства, яго імкненне да яшчэ больш цэнтралізаванага кіравання ім. З мэтай павышэння актыўнасці калгаснікаў у грамадскай вытворчасці устанаўліваўся мінімум працадзён, якія патрэбна было выпрацаваць на працягу года. У БССР іх колькасць раўнялася 80.

Важным накірункам пераўтварэнняў, якія ажыццяўляліся пад сцягам пабудовы сацыялізму, з'яўлялася культурнае развіццё. У першую чаргу неабходна было ажыццявіць усеагульнае пачатковае навучанне. Зыходзячы з поспехаў у гэтай галіне, ужо ў 1932 г. партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі БССР паспешліва абвясцілі, што быццам бы гэта задача выканана, хаця на самай справе было не так.

У 1934 г. XVII з'езд УКП(б) паставіў дабіцца ажыццяўлення ў бліжэйшыя гады ўсеагульнага абавязковага навучання ў аб'ёме сямігадовай школы. Гэты пераход выконваўся ва ўмовах рэфармавання сістэмы адукацыі, якое фактычна пачалося з пачатку 30-х гадоў. На аснове адпаведных пастаноў партыйна-дзяржаўных органаў СССР мяняліся праграмы, падручнікі, устанаўліваўся распарадак школьнага жыцця і іншае. Усталёўвалася адзіная школьная сістэма. Калі да гэтага часу ў БССР асноўным звяном школьнага навучання з'яўлялася сямігодка, то з сярэдзіны 30-х гадоў ім усё больш станавілася дзесяцігадовая агульнаадукацыйная школа.

Шмат увагі ў ёй надавалася не толькі навучанню асновам ведаў, але і выхаванню дзяцей у духу савецкага патрыятызму і пачуцця інтэрнацыяналізму. У той жа час настаўніцтва працавала пад пільным наглядам органаў НКУС. Імі ахоплівалася фактычна ўся школьная сетка. А яна была значная. У 1939/1940 навучальным годзе ва ўсходніх абласцях БССР налічвалася 7195 школ, у якіх працавала звыш 40 тыс. настаўнікаў, навучалася каля 1 млн. 117 тыс. дзяцей.

Нельга было дасягнуць усеагульнай граматнасці без пераадолення непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. З гэтай мэтай была арганізавана значная колькасць пунктаў ліквідацыі непісьменнасці і школ для малапісьменных. Актыўную работу праводзіла таварыства «Далоў непісьменнасць». У 1932 г. яно ахоплівала 165 тыс. чалавек. Вынікі работы былі значныя. На працягу 1930—1939 гадоў у лікпунктах займалася больш 1 млн. 121 тыс. чалавек, а ў школах для малапісьменных — 1 млн. 289 тыс. Фактычна на працягу 20—30-х гадоў каля 1млн. жыхароў БССР сталі пісьменнымі, а больш 0,5 млн. перасталі быць малапісьменнымі. Тым не менш у 1939 г. яшчэ каля 0,7 млн. чалавек заставалася непісьменнымі. Гэта складала 19,2 працэнта ўсяго насельніцтва ва ўзросце ад 9 да 49 гадоў. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ва ўсходніх абласцях рэспублікі каля 85 працэнтаў жыхароў у той ці іншай ступені валодалі граматай. Гэта было значным дасягненнем.

(Працяг будзе.)

ЗАГАДКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА

# ПРА ЧАЛАВЕЧУЮ ВОЛЮ І ЗАКОНЫ ПРЫРОДЫ

(Працяг..Пачатак на с. 1.)

адна група, самых маразматычных, уяўляе сябе агароднінай, якая сядзіць на градцы. З усімі ад таго, як кажуць, наступствамі.

Дык вось так на градцы седзячы, міжволі іншым разам пачынаеш марыць-разважаць — а з кім уласна кажучы нас збіраюцца канкрэтна «воссоединять»? З гістарычным міфам ці з рэальным цяперашнім расійцам? А які ён сёння нехта ведае? «Воссоединить», дзяржаўную сілу маючы, неяк можна. Але ці працяглым атрымаецца шлюб? Можа, на сённяшні лад, калі раніцай пажаніліся, увечары пабіліся, а назаўтра давай з новай калатнечай манаткі дзяліць?

Мы казалі ўжо, як розныя СС і іхнія сябры-таварышы рэагуюць, калі нехта з беларусаў публічна спрабуе паразважаць — дык з кім жа нас прагнуць «воссоединить». У такім разе давайце пададзем да справы з іншага боку. Возьмем і проста пазнаёмімся, як самі расійскія адукаваныя ды сумленныя людзі ацэньваюць сучасны стан свайго грамадства ды зноў жа ўзровень нацыянальнай самасвядомасці рускіх. Ці расіян? Хутчэй, відаць, расіян, хоць некаму і хочацца, каб сотні тысяч і нават мільёны чэчэнцаў, татар, чувашоў, калмыкаў і г.д. назваліся «рускімі». Магчыма, назавуцца. Воля іхняя. А мы давайце ўважліва прачытаем эсэ рускага пісьменніка Барыса Сушкова, апублікаванае ў адным з самых высакакласных сучасных перыядычных выданняў Расіі.

# НАШ РОК — ФЕНАМЕНАЛЬНАСЦЬ

Барыс СУШКОЎ

«Умом Россию не понять...», «Расія – сфінкс...», «народ – баганосец»... і т.п.

Ніякі Расія не сфінкс, і яе няцяжка спасцігнуць розумам. Не трэба толькі сабе і іншым галовы задурваць, апранацца ў «туманнасць» і «загадкавасць» рускай душы. А то мы так і не адкажам на пытанне: чаму ж такая выключная нацыя, Богам абраная, сама сябе знішчыла ў 20-м стагоддзі? Чаму яна зараз у такім стане?

Усе айчынныя і замежныя сівілы ўзяліся падбадзёрваць Расію, прарочаць ёй хуткае вялікае адраджэнне. Незразумела толькі, з чаго яно возьмецца? Бо Расія ж не барон Мюнхгаўзен, які сам сябе, узяўшы за каршэнь, выцягнуў з балота разам з канём.

Расія – і не міфічны рускі народ, якім ён выглядае ў рускіх народных казках і ўсялякага кшталту «месіянскіх» канцэпцыях. Нашы прывычкі і нашы душэўныя навыкі мала садзейнічаюць дасягненню гэтай мэты.

Рускі чалавек у сілу сваёй нейкай хуткаімклівай душэўна-касмічнай прыроды не ўтрымлівае свае розум і волю на ўзроўні сваёй геніяльнасці. «Рускаму чалавеку ў вышэйшай ступені ўласцівы ўзвышаны строй думак. Але скажыце, чаму ў жыцці ён бярэ так невысока?» – гараваў Чэхаў.

А таму, Антон Паўлавіч, што ён фенаменальны ў кожнае імгненне свайго быцця. І гэтая фенаменальнасць («з якой нагі падняўся») заўжды кідае яго то ўверх, то ўніз, то ў жару, то ў холад.

Адсюль ні развіцця (як паступовага нарошчвання моцных рыс і пазбаўлення ад слабых), ні стабільнасці няма ў рускім чалавеку.

Таму рускіх людзей нішто амаль не аб'ядноўвае, нягледзячы на вялікае мноства «аб'яднальных» ідэй і канцэпцый: тут і праваслаўе, і славянаслаўе, і «всеединство и вселенскость» рускай душы, і іншыя фантазіі заўзятых мудрацоў, што выдаюць пажаданні за рэальнасць. Няма павагі да продкаў, як Пушкін канстатаваў. Кожны сам па сабе і творыць увесь сусвет нанава па ўласных поглядах ды настрою. «Дай рускаму хлопчыку карту зорнага неба, ён раніцою верне яе вам папраўленаю», – захапляўся Дастаеўскі.

Еўрапейская культура будавалася на паступовым развіцці рацыянальнага пачатку (ад субектыўнай разважальнай філасофіі да аб'ектыўнай навукі). Расійская культура развівалася (калі гэта ўвогуле можна назваць развіццём) на пачатках супроцьлеглых – ірацыянальных, фенаменальных: «Для вас – века, для нас – единый миг...» Вось гэтыя «імгненні» і давялі нас, як пушкінскую старую, да разбітага нацыянальнага «карыта».

Адсюль – і адчуванне Апакаліпсіса кожны раз пасля чарговага паглынання цемрай куміра. Так было пасля смерці Пушкіна («Солнце русской поэзии закатилось...») Гэта пры жывых Жукоўскім, Баратынскім, не гаворачы ўжо пра Лермантава, Цютчава! Дастаеўскага, якога хавалі як апошняга прарока, Талстога («Вот умрет Толстой, и все пойдет к черту»). Ды хто гаварыў? Не Чарткоў які-небудзь, а Чэхаў! Паміж іншым, сапраўды «ўсё пайшло к чорту», але не таму, што памёр Талстой, а таму, што ў нас не было вялікай нацыянальнай культуры – былі адны вялікія пісьменнікі.

А што было з народам і грамадствам пасля смерці Леніна, Сталіна? Чакалі ж не меней, як канца свету, гібелі планеты. Таму што фенаменальнасць гэтых духоўных і палітычных правадыроў была выключнай і, значыць, неперајмальнай. І, значыць, катастрафічным, а не эвалюцыйным быў ход нашай культуры і нашай дзяржаўнасці.

Вось у чым, калі хочаце, знакамітая «загадка» рускай душы. Яна пацвярджаецца і цяперашняй культурна-палітычнай сітуацыяй. Усе палітычныя дзеячы, што тусуюцца вакол улады, – усе выключныя феномены, і іхняя фенаменальнасць выключае ўсялякі кампраміс з іншадумцамі. Адсюль і страх у грамадстве, што новыя парламенцкія выбары пры любой групіроўцы-пераможцы могуць скончыцца жорсткімі палітычнымі разборкамі.

Рускі народ – самы буржуазны народ у свеце, хоць яму і імкнуліся ўбіць у галаву, быццам ён – баганосец, абшчыннік і хрысціянскі несупраціўленец. Народ пра сябе думае інакш. Бунін спытаў мужыка: «Як аднавяскоўцы да цябе ставяцца?» «Ніяк не могуць яны да мяне ставіцца», – адказаў «сфінкс», «абшчыннік», «несупраціўленец» і «баганосец».

Калі мы не хочам канчаткова загубіць сябе, то самая пара ўсім нам пераходзіць ад старажытнай дзіцячай фенаменальнасці склада душы (ва ўсіх цывілізаваных народаў гэта ўжо даўно пераадолена рацыяналістычнай філасофіяй) да гэтага самага рацыяналізму і навуковай формы свядомасці.

Веданне аб'ектыўных законаў дысцыплінуе і аб'ядноўвае. Нельга ім вечна супрацьстаўляць сваю «волю і ўяўленне», гэта значыць сваю фенаменальнасць.

(«Литературная газета», № 34, 1994 г.)

*Пагодзімся: асэнсаванне цяперашняга духоўнага стану ўласнага народа зроблена, безумоўна, прафесійна-цвяроза і ў той жа час паважліва. З усёй павагаю паставіўшыся да духоўных праблем вялікага суседа, паспрабуем гэтак жа цвяроза параўнаць з расійскім беларускае светаўспрыманне ды і самаўспрыманне. Адразу ўбачым, што яны ў многім не супадаюць. Папросту, тут два розныя характары. То як жа іх «воссоединять», каб абодвум было на карысць, а не на шкоду?*

*УлАс.*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ВУЧЫМСЯ

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАРУЧЫ́ЦЕЛЬСТВА** (узятае кім-н. на сябе абавязацельства несці адказнасць за каго-, што-н.) *Не было тут толькі тых, хто знаходзіўся да суда на волі пад грашовым залогам або былі пад чыім-небудзь паручыцельствам* (Машара). *А галаву свідравала адна пакаянная думка: «Навошта я браў паручыцельства ў Пазняка»* (Дуброўскі), **ПАРУ́КА** (слова ўжыв. звычайна ў выразах: **узяць, браць** і пад. **на парукі, знаходзіцца** і пад. **на паруках, пад парукай**) *[Цётка:] – Пашкадавалі мяне добрыя людзі, не выслалі з тою сям'ёй. Аддалі бацьку з маткай на парукі, пакуль дзіця родзіцца* (Палтаран). *Аднак час рабіў сваю справу, новы мост служыў добра, таму два старшыні ўзялі мяне на парукі* (Нядзведскі). *На лавах сядзелі ўжо тыя падсудныя, што знаходзіліся ў іншых астрогах і на волі пад парукай* (Машара).

**ПАРУ́ШЫЦЬ** (*закон, парадак, клятву, абавязак* і пад.: не захаваць) *Мікола сам зразумеў, што не пасцярогся ў сварцы з солтысам, у гарачцы парушыў правілы канспірацыі* (Сабаленка). *А калі б я парушыў прысягу, Гнеў сяброў хай мяне не міне, Хай ад рук партызанаў я лягу, Пакарайце за здраду мяне* (Астрэйка), **ПЕРАСТУПІЦЬ** *Прасачыць, каб каму не ўздумалася пераступіць і абысці закон, – усё гэта, вядома, таксама вельмі патрэбна* (Шахавец). *Загадана – значыць рабі, і ніхто на месцы дырэктыву адмяніць не мог, не меў сілы. Закон пераступіць нельга* (Кухараў). – *Незакончанае трыванне*: **Парушáць, пераступáць**.

**ПАРШЫ́ВЫ** (хворы на паршу, са струпамі на скуры) *Адны клікалі самымі ласкавымі імёнамі, другія намагаліся злавіць. Але паршываму сабачаняці, відаць, спадабалася вольная беганіна пасля надакучлівай язды ў машыне, з якой ён і выскачыў* (Лынькоў). *«Як падсвінак паршывы, – з прыкрасцю думаў Міхал, – яго адцягваеш за вушы, выспятка даеш, а ён усё адно лезе ў карыта з нагамі»* (Карпаў). *Ад паршывай свінкі не столькі шчасця, колькі квіку* (прыказка), **ШАЛУДЗІВЫ** размоўнае *Дробненька трусіць пара худых, шалудзівых конікаў* (Сяргейчык). *У ваччу кожнага ўстае гэтае кацянё, шалудзівае, брыдкае, з блудлівымі вачамі, з брыдкімі чорнымі касмылінамі* (Лынькоў).

**ПАРЭ́ЗАЦЦА** (параніць сябе чым-н. вострым) *Таццяна.. ўдарыла ў раму, выбіла яе і выскачыла на вуліцу. Аб шкло парэзала лоб, руку і ногі. Парэзаўся і Віктар* (Шамякін), **АБРЭ́ЗАЦЦА** *Сухая папараць шорсткая пасля зімы. Ашмаргні галінку – абрэжашся* (Пташнікаў). – Незак.: **Абразáцца і абрэ́звацца.**

**ПАРЭ́ЗАЦЬ** (параніць чым-н. вострым) – *Кінь гэтае шкло, твар парэжаш. – Дзяўчынка прытуліла шкло да грудзей* (Чорны), **АБРЭ́ЗАЦЬ** *[Жэнька] яшчэ не ўмее жаць, – раз прабавала ды палец абрэзала – яшчэ знак ёсць* (Крапіва).

**ПАСА́ДА** (службовае становішча і звязаныя з ім абавязкі) *Ад злосці больш яшчэ чарнее [ляснічы], З астатніх слоў Міхася лае, З пасады выгнаць пагражае* (Колас). *Бацька працаваў падзённа на чыгунцы, пасля яго прынялі на штатную пасаду рамонтным рабочым пад Магілёвам* (С.Александровіч), **МЕ́СЦА** *[Костусь:] – Ідзі, дзядзька Ёсель, займай месца старшага брыгадзіра ў сталярні* (Чорны). *У пачатку навучальнага года мне прапанавалі месца інспектара нашага раёна* (Васілевіч), **ПОСТ** (пераважна пра адказную пасаду) *На .. адказным пасту.. штодзённа даводзіцца вырашаць мноства складаных пытанняў* (Брыль). *А хто вялікі пост займае, Заняткаў у таго, як кажуць, цэлы воз: Абдумаць, паглядзець, дамовіцца, звязацца, Пагутарыць, часамі паспрачацца, на пасяджэннях дзень і ноч сядзець...* (Корбан).

**ПА-САПРА́ЎДНАМУ** (належным чынам, як патрэбна) *Ён [Сцяпан] тут навічок, яго ніхто па-сапраўднаму не ведае* (Гроднеў). *Сымон па-сапраўднаму апамятаўся толькі на вуліцы* (Чарнышэвіч), **САПРАЎДЫ́** *Мякка шуршэла палоззе, і ўжо сапраўды пачынала свістаць завіруха* (Ракітны). *Я так каханне разумею: Калі кахаеш сапраўды, Ідзеш да любай у завею, А глянеш – расцвітуць сады* (Прануза), **ПАПРА́ЎДЗЕ** – *Каб верыць – трэба знаць, а каб знаць – трэба верыць папраўдзе... Гэта нібы як жарт, а тым часам у жыцці скрозь так бывае...* (Зарэцкі).

**ПА́СЕКА** (месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі і спецыяльныя будынкі) *Побач, у маладым яблыневым садку, была калгасная пасека, а там – гаспадарчыя будынкі, школа, млын* (Кулакоўскі). *[Пчолы] неслі ўзятак на новыя пасекі ў свае даўно абжытыя вуллі* (Грахоўскі), **ПЧАЛЬНІК** *Шэсць дарожак неўзабаве зліліся ў адну, і вяла яна да пчальніка, вуллі якога бялелі ўдалечыні пад густымі ліпамі* (Хомчанка). *Вялікі, можа, на сто домікаў, пчальнік раскінуўся на сонечнай паляне* (Ваданосаў), **ПЧО́ЛЬНІК** *Вось разведаў шэршань ласы, Што рой выйшаў на папасы, Захацеў стары разбойнік Зазірнуць на пчольнік* (Калачынскі). *Трапіўся вялізны пчольнік – маленькія, вельмі сучасныя, зробленыя ў калгаснай стальмашні, драўляныя домікі на колікях сярод лазы, – дыхнула мёдам* (Сачанка).

**ПАСЕЛІШЧА** (населены пункт у сельскай мясцовасці) *Здавалася, што гэтае прыгожае паселішча стаіць тут спрадвеку, не старэючы і не хілячыся на бок смалістымі сценамі сваіх хат* (Паслядовіч). *Над Старыцай, далёкім ад Мінска паселішчам, над палямі і ляснымі нетрамі гэтак жа, як і над Мінскам, плыла позняя верасьнёвая ноч* (Хадкевіч), **ПАСЯЛЕ́ННЕ** *Пад ганаровай вартаю прысад У кожным беларускім пасяленні Стаіць гранёны абеліск гранітны* (Жычка). *Таму адной з важнейшых задач у наш час з'яўляецца стварэнне буйных добраўпарадкаваных пасяленняў, якія задавальнялі б не толькі матэрыяльныя, але і духоўныя запатрабаванні людзей* («Звязда»), **СЯЛІБА** *О, дзядзька спосабаў меў многа Даняць працаўніка малога! Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу, Або паехаць у сялібу Ці ў млын малоць на хлеб збажыну* (Колас). *Хаты ішлі з сялібы аж да самай невялічкай рэчкі Проні, паабапал якой раскідаліся лазні ды гумнішчы* (Каваль).

### Г) СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ВЫКАЗНІКАВЫМІ ЧАСТКАМІ

Даданая выказнікавая частка звязваецца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў **хто, што, які, як, быццам** і інш. і заўсёды аддзяляецца ад яе коскай: *Якое поле, такі і ўраджай* (Прыказка). *Словы такія, як некалі маці мне гаварыла* (Міхась Чарот). *Увесь яго выгляд быў такі, быццам ён прыбег аднекуль* (Кузьма Чорны). *Яблыкі з тых, дзе соку шмат* (Б.Мікуліч). *Сцёпка не такі, каб адразу здацца* (Якуб Колас).

УДАКЛАДНІМ

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар*

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ

### Д) СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ЧАСТКАМІ ЧАСУ

1. Даданая частка часу звязваецца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа злучнікамі **калі, як, пакуль, ледзь, як толькі** і інш. і аддзяляецца ад яе пры дапамозе коскі: *Мы выйдзем рана-рана на нашу сенажаць, калі яшчэ туманы за рэчкаю ляжаць* (А.Русак). *Ты прыйшла ка мне тады, як звінелі халады...* (Янка Купала). *Над жытамі песні льюцца, толькі сонца ўстане* (Якуб Колас). *Ледзь толькі неба пацямнее, пяюць штоночы салаўі...* (П.Глебка).

2. Калі даданая частка часу размешчана ў сярэдзіне галоўнай часткі складаназалежнага сказа, то яна выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Вечарам, калі запальваліся першыя зоры, падарожнікі спыніліся на начлег* (Кузьма Чорны). *Сёння, ледзь узышло сонца, усе былі на нагах* (Х.Шынклер). *Уранку, толькі бойка адгула, баец ішоў па вуліцы сяла* (П.Броўка).

3. Калі на складаныя злучнікі **да таго як, пасля таго як, перад тым як, да таго часу калі** і інш. не прыпадае лагічны націск, то гэтыя злучнікі коскай не раздзяляюцца: *Да таго часу як пачаўся сход, сяляне гаманілі аб сваіх справах* (Міхась Зарэцкі). *Пасля таго як зайшло сонца, над рэчкай паднімаецца малачавы туман* (У.Краўчанка).

Але калі на адзін з кампанентаў указаных злучнікаў прыпадае лагічны націск, тады пасля гэтага кампанента ставіцца коска, а ролю злучніка выконваюць тыя кампаненты, якія размешчаны непасрэдна за коскай: *Ужо цямнела тады, калі хлопцы ўвайшлі ў горад* (М.Лынькоў). *Я збіраў басанож крапіву каля плота перад тым, як зямля наліецца цяплом* (П.Глебка). *Усё адбылося пасля таго, як зайшло сонца* (Кузьма Чорны).

4. У складаназалежных сказах з даданымі часткамі часу ставіцца працяжнік:

калі галоўная і даданая часткі з'яўляюцца развітымі і маюць свае знакі прыпынку (пераважна коскі): *А калі навальваўся вораг усёй сваёй масай і гатовы быў, здавалася, вось-вось расціснуць, скрышыць, сцерці ў пыл сваёй тэхнікай, артылерыяй, мінамётамі – тады партызаны прасочваліся, праслізалі праз яго баявыя парадкі і тут жа, злучыўшыся, сабраўшыся, зноў білі ворага* (М.Лынькоў);

калі даданая частка суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй і падкрэслена лагічна: *Калі ўстане сонца – на рыштаванні ўзыдуць будаўнікі* (Э.Самуйлёнак);

калі даданая частка суправаджаецца дадатковым адценнем умовы: *Толькі выйшлі мы з сяброўкай на шырокую пляцоўку – як памалу ды патрошку нас прывабілі дарожкі...* (П.Глебка). *Як толькі прыеду дамоў – бацька вядзе мяне адразу ў сад* (Я.Брыль).

Пры асабліва ўзмоцненай інтанацыі і лагічным расчляненні складаназалежнага сказа на дзве часткі з працяглай паўзай і аслабленай сувяззю паміж імі можа ставіцца коска з працяжнікам: *Ледзь першыя раннія промні зары затлелі на стрэхах, на зелені свежай, – мы вывелі ў поле свае трактары і ў наступ пайшлі на спрадвечныя межы...* (М.Танк). *З рук сваіх я не выпушчу зброі, – пакуль лёсам мне суджана жыць* (П.Панчанка).

КУЛЬТУРА МОВЫ

## АбРІДзела, або дзіўныя абрэвіятуры...

Апошнім часам у нашай мове з'явілася шэраг незразумелых сваім напісаннем абрэвіятур. Гэта РІД, Пріорбанк, НДІ, РТІ, БелТІЗ, УНДІ, МРТІ, БТіР, «агенцтва САДІ». Найчасцей за іншыя сустракаецца першая. І яно зразумела. РІД — гэта інфармацыйнае агенцтва. І кожнага дня ў друку ёсць яго паведамленні «Як стала вядома карэспандэнту агенцтва РІД», «Як перадаў карэспандэнт РІД», «Па звестках агенцтва РІД». Так звычайна пачынаюцца паведамленні згаданага агенцтва. Што беларуса бянтэжыць у згаданай абрэвіятуры? Гэта найперш напісанне. Усе мы ведаем, што гук **[р]** у беларускай мове зацвярдзелы. А тут — «РІД». І гэтае **і** пасля **р** вытыркаецца, коле вока, як асцюк. Яно, нахабнае, нібы смяецца-здзекуецца: «Вы кажаце, што ў беларускай мове гук **[р]** зацвярдзелы, што не могуць пасля зацвярдзелага зычнага стаяць літары **е, ё, ю, я, і**?» «А я вось стаю і хоць бы што... Стаю, вока ўсім калю, а ўсё ж стаю...» З такой жа здзеклівай пыхай — пра сябе гаворыць **і** і ў слове «ПРіОРБАНК».

«Не выхваляйся, — нібыта кажа згаданая назва абрэвіятуры «РІД». — Мне таксама беларуская граматыка не ішла, не ехала... Вось глядзі, як я стаю побач з гэтым іхнім зацвярдзелым гукам і ніколечкі яго не баюся. Праўда, разумею, што не па закону стаю... Але хто цяпер тых законаў трымаецца?.. Усе маўчаць: і пракурор, і суддзі... Дык і ... стаю. Праўда, чую, што суседняе «**р**» крыху гыркае, бурчыць... Ну, але хай пабурчыць, хай пагыркае... Я патрываю...»

А і на праўду, як жа быць? Граматыка не дазваляе, а мы ўсё роўна пішам. Ці ж ёсць выйсце? Можа згаданыя абрэвіятуры перадаваць па-руску — «РИД» — і тады ні ў кога не будзе прэтэнзій, пярэчанняў. Паміж іншым, на нашым радыё гэтак і стараюцца рабіць. Але ў беларускамоўнай вуснай стыхіі згаданая абрэвіятура, вымаўленая па-расійску, дужа выпірае...

Згадаю яшчэ колькі абрэвіятур. ТЮГ — Тэатр юнага гледача. Зноў жа, паводле нашай граматыкі, не могуць суседнічаць **т** і **ю**. Пры такіх умовах **т** мае перайсці ў **ц**, і мы павінны мець «ЦЮГ...» Між іншым, мы гэтак і вымаўляем. Расшыфроўка ж пры такой перадачы абрэвіятуры павінна быць: ціятр юнага гледача. Але літаратурная норма — тэатр, бо гэтае слова пазычанае. Вось і атрымліваецца якаясь несуразіца. ДАВТ — Дзяржаўны акадэмічны вялікі тэатр. Тэарэтычна нібы ўсё правільна. А вось у жывой моўнай практыцы не ўсё гладка, бо штосьці несуладнае атрымоўваецца пры скланенні: «У ДАВАТе — не, пакуль не вакацыі, а хутчэй антракт» (так пісаў «ЛіМ» за 20.VII.94 г.). Парушаны натуральны закон мовы, і гэтае парушэнне дае пра сябе праяву. Як жа быць? Ці правамерныя абрэвіятуры ТЮГ і ДАВТ для нашай мовы? Гэткая ж супярэчнасць між граматыкай, пазычаным словам і натуральным, прыродным для беларусаў маўленнем выяўляецца і ў абрэвіятуры.

А зараз колькі слоў пра абрэвіятуру БДУ. Я раней не заўважаў, што згаданая абрэвіятура таксама мае сказу, як кажуць, з «чарвячком» у сярэдзіне, таму што складзена з вялікім парушэннем правілаў утварэння абрэвіятур. Але вось неяк у «Чырвонай змене» напаткаў успаміны колішняй выхаванкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якая жыла ў Злучаных Штатах. Дык у гэтых успамінах напаткаў такую абрэвіятуру БДК... БДЗУ (БДзУ). Напаткаў, падумаў, падзівіўся, падзівіўся і пагадзіўся: правільная абрэвіятура. Мы ж расчлянілі, разарвалі гук **[дз]** (дзяржаўны). А гэта ўжо глум. Гэта ненавукова, як мне здаецца. Цікава, а што думаюць мовазнаўцы-навукоўцы пра гэта? Ці думалі, ці разважалі яны хоць калі пра згаданыя ды іншыя абрэвіятуры, якія не стасуюцца з беларускай граматыкай? Ці ўсё ж яны прымальныя?

Дарэчы, тут згадвалася абрэвіятура БелТІЗ... Каб не ламалі галавы — расшыфрую, расчытаю — Беларускае таварыства інвалідаў зроку (па зроку).

(«Добры вечар». 1994 год. «Невідушчым пашыраюць магчымасці»).

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# СІМЯОН ПОЛАЦКІ ПІСАЎ ЛАЦІНКАЮ

*Шаноўная рэдакцыя газеты «Наша слова»! Мне вельмі падабаецца ваша газета. Я падпісаўся і на наступны квартал і лічу, што гэта газета патрэбна ўсім беларусам. Аднак у мяне ёсць просьба, каб у кожным нумары газеты быў надрукаваны артыкул пра беларускую лацінку, а таксама алфавіт, вершы лацінкай.*

*З павагай*

***Алесь КОВАЛЬ, г.Віцебск.***

Як вядома, славуты беларускі паэт, драматург, прамоўца і педагог Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітніяновіч (Сімяон Полацкі), першы ў Расіі пісьменнік-прафесіянал, быў, паводле курляндскага арыстакрата Якуба Рэйтэнфельса, «у высокай ступені перапоўнены лацінскай вучонасцю». Сваю прыналежнасць да уніяцтва і базіліянскага ордэна ён утаіў, бо, як піша савецкі даследнік А.Н.Рабінсон, гэта «пагражала яму ў Маскве ў лепшым выпадку ссылкаю куды-небудзь на Салаўкі».

У 1678 годзе Сімяон Полацкі пачаў складаць зборнік «Рыфмалагіён», у які ўключыў вершаваныя творы 1659—1680 гадоў. Вядомыя тры чарнавыя рукапісныя кнігі паэта, верагодныя варыянты зборніка. У адным з рукапісаў рукой Сімяона зроблены пазначкі: «П» ці «Prepicano». (У тэксце кнігі надрукавана **с** кірыліцкае, хаця тут мусіць быць лацінскае. — **Рэд.**) Большая частка рукапісу напісана самым Сімяонам. «У ім знайшоў адлюстраванне той факт, што Сімяон на пачатку свайго знаходжання ў Маскве не валодаў кірыліцай і першыя віншавальныя вершы пісаў, карыстаючыся звыклай для яго польскай графікай». (Якая гэта «польская» графіка, відаць з цытаваных далей радкоў. — **Рэд.**) «Так ён запісаў адно з першых сваіх маскоўскіх «прывітанняў» з нагоды свята Уваскрэсення Хрыстовага. Загаловак напісаны па-польску: «Winszowanie z martwych wstania Panskiego Preswietlomu Carskomu Weliczestwu y welikomu Kniaziu Alexieiu Michayłowiczu Wseia Welikia y Malyia y Bielyia Rossyi samoderzca».

Далей у кнізе цытуюцца радкі верша «на «рускай» мове, запісаныя польскай графікай»: «Moysey prawdiwyi nine narozdenny // Kotory ludzii narod swobozdenny» — «Моисий истинный ныне есть рожденный // им же из плена род наш свобожденный».

*Паводле калектыўнай манаграфіі «Симеон Полоцкий и его книгоиздательская деятельность»,«Наука». М., 1982.*

# АБ ПРАВІЛАХ ТРАНСЛІТАРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ УЛАСНЫХ НАЗВАЎ

У новым пашпарце грамадзян Рэспублікі Беларусь запісы будуць рабіцца на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. На самай справе гутарка павінна ісці не пра запіс на англійскай мове беларускіх імён, прозвішчаў і назваў населеных пунктаў, а толькі пра іх транслітарацыю на лацінскі алфавіт. Сапраўды, калі ўсе рэквізіты, г. зн. надпісы «імя», «прозвішча», «месца нараджэння», «месца выдачы пашпарта» будуць выкананы на англійскай мове, то ўласныя імёны (імя, імя па бацьку, прозвішча) і назвы не перакладаюцца на англійскую мову, а толькі перадаюцца літарнымі сродкамі лацінскай азбукі. Для ажыццяўлення гэтай даволі няпростай задачы неабходна распрацаваць сістэму адпаведнікаў літар беларускага алфавіта, якія маглі б забяспечыць дакладную перадачу напісання беларускіх уласных назваў.

Графічных сродкаў алфавіта, які выкарыстоўваецца ў сучаснай англійскай мове, для гэтай мэты аказваецца яўна недастаткова. У першую чаргу гэта датычыцца перадачы такіх літар беларускага алфавіта, як *ц*, *ч*, *ж*, *ш*, *е, я, ё, ю*, а таксама спалучэнняў літар *дж*, *дз*. Сродкі англійскага алфавіта не дазваляюць перадаваць на пісьме адрозненні зычных па цвёрдасці і мяккасці, што вельмі істотна для беларускай мовы. Спалучэнні літар, якія звычайна ў такіх выпадках ужываюцца, робяць цяжкім ці зусім немагчымым правільнае іх прачытанне нават тымі, хто ведае англійскую мову. Між тым транслітарацыя ўласных назваў разлічана на носьбітаў тых моў, у аснове графікі якіх ляжыць лацінскі алфавіт. Так, калі карыстацца толькі сродкамі англійскага алфавіта, пры транслітарацыі жаночага імені *Таццяна* давядзецца ўжыць нехарактэрнае і цяжказразумелае спалучэнне зычных (*Tatstsyana* ), супадуць па напісанню беларускія прозвішчы *Карабан* і *Карабань* (*Karaban*), немагчыма будзе перадаць мяккасць канцавых зычных у назвах гарадоў *Смаргонь* (*Smarqon*), *Лепель* (*Lepel*). Параўн.: *Валожын* (*Valozhyn*), *Кобрын* (*Kobryn*) і г.д.

У сусветнай практыцы распрацаваны розныя сістэмы транслітарацыі ўласных назваў, што выкарыстоўваюць дадатковыя надрадковыя знакі для перадачы тых літар кірылічнага алфавіта, для якіх няма адпаведнікаў у лацінскім. Да такіх сістэм адносіцца сістэма ISO, распрацаваная Міжнароднай арганізацыяй стандартаў (International Standart Orqanization), а таксама правілы міжнароднай транслітарацыі рускіх уласных імён лацінскімі літарамі, распрацаваныя Інстытутам мовазнаўства АН СССР (цяпер РАН). Абедзве гэтыя сістэмы шырока выкарыстоўваюцца ў міжнароднай практыцы і з усіх існуючых сістэм найбольш падыходзяць для транслітарацыі беларускіх уласных назваў. Тым не менш нават яны не могуць забяспечыць абсалютную дакладнасць перадачы асаблівасцей напісання беларускіх імён, прозвішчаў, геаграфічных назваў і назваў населеных пунктаў.

Таму Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі прапануе ў якасці універсальнай сістэмы транслітарацыі, якая дазваляе максімальна дакладна перадаваць асаблівасці напісання беларускіх імён, прозвішчаў і назваў населеных пунктаў і інш., сістэму, якая грунтуецца на «беларускай лацінцы» паводле «Беларускай граматыкі для школ» Б.Тарашкевіча (выд. 5-е. Вільня, 1929, лекцыя 42, § 46). «Беларуская лацінка» ўжывалася для друкавання беларускіх тэкстаў у канцы XIX—пачатку XX ст. Ніжэй прыводзіцца табліца правіл міжнароднай транслітарацыі беларускіх слоў лацінскімі літарамі (для параўнання ў трэцім і чацвёртым слупках прыведзены лацінскія адпаведнікі па сістэмах ISO і Інстытута мовазнаўства РАН).

| Беларускія літары | Адпаведныя літары лацінскага алфавіта па сістэме, прапанаванай Інстытутам мовазнаўства АНБ | Тое ж па сістэме ISO | Тое ж па сістэме РАН | Тое ж паводле Б.Тарашкевіча* | Тое ж паводле прапановы Міласлава Зімы* |
|---|---|---|---|---|---|
| А а | A a | A a | A a | A a | A a |
| Б б | B b | B b | B b | B b | B b |
| В в | V v | V v | V v | W w | V v |
| Г г | H h | G g | G g | H h<br>G g | H h<br>G g ğ |
| Д д | D d | D d | D d | D d | D d |
| Дж дж | Dž dž | Dž dž | | dž | dž ǧ |
| Дз дз | Dz dz | Dz dz | | dz | dz ʒ |
| Е е | ie — пасля зычных<br>Je je - у пачатку слова, пасля галосных, пасля апострафа і раздзяляльнага мяккага знака | E e | 'e<br>Je je | ie<br>je | ě<br>je |
| Ё ё | io - пасля зычных<br>Jo jo - у пачатку слова, пасля галосных, пасля апострафа і раздзяляльнага мяккага знака | Ë ë | 'o<br>Jo jo | io<br>jo | ë<br>jo |
| Ж ж | Ž ž | Ž ž | Ž ž | Ž ž | Ž ž |
| З з | Z z | Z z | Z z | Z z | Z z |
| І і | I i<br>ji - пасля мяккага знака | I i | I i<br>ji | I i | I i |
| Й й | J j | J j | J j | J j | J j |
| К к | K к | K к | K к | K к | K к |
| Л л | L l | L l | L l | L l<br>Ł ł | L l<br>Ľ ľ |
| М м | M m | M m | M m | M m | M m |
| Н н | N n | N n | N n | N n | N n |
| О о | O o | O o | O o | O o | O o |
| П п | P p | P p | P p | P p | P p |
| Р р | R r | R r | R r | R r | R r |
| С с | S s | S s | S s | S s | S s |
| Т т | T t | T t | T t | T t | T t |
| У у | U u | U u | U u | U u | U u |
| Ў ў | Ŭ ŭ | W w | | Ŭ ŭ | Ŭ ŭ |
| Ф ф | F f | F f | F f | F f | F f |
| Х х | Ch ch | H h | Ch ch | Ch ch | Ch ch -x- |
| Ц ц | C c | C c | C c | C c | C c |
| Ч ч | Č č | Č č | Č č | Č č | Č č |
| Ш ш | Š š | Š š | Š š | Š š | Š š |
| Ь ь | ´- рыска над зычным, што стаіць перад ь | | | | |
| Ы ы | Y y | Y y | Y y | Y y | Y y |
| Э э | E e | è | e | E e | E e ê |
| Ю ю | iu - пасля зычных<br>Ju ju - у пачатку слова, - пасля галосных, пасля апострафа і раздзяляльнага мяккага знака | Û û | 'u<br>Ju ju | iu<br>ju | Ju ju |
| Я я | ia - пасля зычных<br>Ja ja - у пачатку слова, пасля галосных, пасля апострафа і раздзяляльнага мяккага знака | â | 'a<br>Ja ja | ia<br>ja | Ja ja |

* Гэтых слупкоў у аўтарскім артыкуле не было. Яны дададзены рэдакцыяй

Прапанаваная сістэма мае толькі адно адрозненне ад «беларускай лацінкі» паводле граматыкі Б.Тарашкевіча, якое заключаецца ў неаднолькавым абазначэнні мяккага і цвёрдага зычнага «л». У «беларускай лацінцы» літарай l абазначаўся мяккі зычны «л», а літарай ł — цвёрды зычны «л»: *слава - sława, лес - les.* Такі прынцып характэрны для сучаснай польскай мовы і, відаць, быў прыняты ў беларускай мове пад непасрэдным уплывам польскай графікі. У прапанаванай Інстытутам мовазнаўства сістэме транслітарацыі перадача цвёрдага і мяккага «л» падпарадкоўваецца агульнаму прынцыпу адлюстравання мяккасці зычных. Літара алфавіта абазначае цвёрды гук, мяккасць зычнага перад галосным перадаецца літарай «і» і адпаведным галосным, мяккасць зычнага перад мяккім знакам і ў канцы слова — рыскай (´) над адпаведнай літарай. Такая сістэма з'яўляецца зручнай для карыстання. Напрыклад: *Аляксей — Aliaksiej, Лявон — Liavon, Уладзімір — Uladzimir, Анатоль — Anatol´*, як і *Віктар — Viktar, Вячаслаў — Viačaslaŭ, Васіль — Vasil´.* Паводле «беларускай лацінкі» пералічаныя імёны павінны пісацца наступным чынам: *Alaksiej, Lavon, Uładzimir, Anatol, Viktar, Viačasłaŭ, Vasil.*

Як можна бачыць, прынцыпы перадачы мяккасці і цвёрдасці «л» адрозніваюцца ад перадачы цвёрдых і мяккіх астатніх зычных. Мэтазгоднасць прапанаванага Інстытутам мовазнаўства падыходу абумоўлена яшчэ і тым, што проціпастаўленне цвёрдага і мяккага «л» у беларускай мове мае той жа характар, што і проціпастаўленне астатніх цвёрдых і мяккіх парных зычных. У той жа час у польскай мове гукі, што абазначаюцца літарамі *l*, *ł*, маюць зусім іншую прыроду, чым адпаведныя беларускія гукі «л» цвёрдае і «л» мяккае. Так, гук, што абазначаецца літарай *ł*, у большай ступені суадносіцца з беларускім гукам, абазначаным літарай «ў». Таму прапанову Інстытута мовазнаўства аб перадачы «л» цвёрдага і «л» мяккага варта прыняць пад увагу і тым, хто друкуе або збіраецца друкаваць беларускія тэксты лацінкай.

Такім чынам, прапанаваная сістэма транслітарацыі беларускіх імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў сродкамі лацінскага алфавіта дазваляе максімальна дакладна перадаць асаблівасці напісання ў беларускай мове, з'яўляецца зручнай для карыстання, працягвае традыцыю выкарыстання лацінскага алфавіта ў гісторыі беларускай мовы і, што таксама немалаважна, мае нязначныя адрозненні ад найбольш пашыраных міжнародных сістэм транслітарацыі графічных сістэм на аснове кірылічнага алфавіта сродкамі лацінскай графікі. Яна можа з поспехам выкарыстоўвацца не толькі ў справе пашпартызацыі, але і ўсюды, дзе неабходна транслітарацыя беларускіх уласных назваў сродкамі лацінскага алфавіта (геаграфічныя карты, турыстычныя схемы, дарожныя абазначэнні і інш.).

**А.А.ЛУКАШАНЕЦ,**
**намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, кандыдат філалагічных навук.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





# «СЛАВА ВОРШЫ ЎЖО НЯ ГОРША...»

**Беларускі народны фронт «Адраджэньне» разам з Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў ды партыямі і грамадскімі арганізацыямі дэмакратычнага накірунку ўрачыста адзначылі 480-я ўгодкі перамогі беларускага войска пад Оршай. 3 верасня на полі па-над рэчкай Крапіўнай, дзе 8 верасня 1514 года адбылася бітва, быў пастаўлены і асвечаны крыж. У Менску наладжаны выставы ў мастацкім і гістарычным музеях, а таксама адбыўся ўрачысты фэст, які сабраў шмат удзельнікаў. Гарадскія ўлады сталіцы, якія былі дазволілі шэсце ў юбілейны дзень, напярэдадні фэсту выракліся свайго рашэння. А таму ў дзень свята шэраг АМОНу перагарадзіў вуліцу імя Янкі Купалы, па якой меліся ісці ўдзельнікі, але дарэмна. Шэсце тысячаў менчукоў і гасцей сталіцы, спартсменаў-коннікаў, апранутых у вайсковыя строі XVI стагоддзя, прайшло па гэтай вуліцы да плошчы перад оперным тэатрам, дзе і адбылася ўрачыстасць. А пасля да позняга вечара тысячы жыхароў беларускай сталіцы слухалі канцэрт вядомых прафесіянальных фальклорных калектываў.**

**Урачыстасці з нагоды слаўнай бітвы закончыліся 14 верасня навуковай сесіяй, дзе вядомыя беларускія даследчыкі выступілі з дакладамі пра гістарычнае значэнне бітвы 8 верасня 1514 года, пра ўзбраенне беларускіх воінаў, пра водгукі еўрапейскіх палітыкаў аб гэтай перамозе над войскам маскоўскім, пра карціну «Бітва пад Оршай». На гэтай карціне невядомы мастак, сведка перамогі беларускага войска, намаляваў мноства сцягоў з тым жа спалучэннем белага і чырвонага колераў, што і на дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь.**



Першым на навуковай сесіі выступіў старшыня Аргкамітэта па святкаванні 480-х угодкаў бітвы пад Оршай сп. Анатоль Грыцкевіч. У сваім дакладзе ён прааналізаваў прычыны паражэння войска Вялікага Княства Маскоўскага і поспеху войска Вялікага Княства Літоўскага. Маскоўскія ваяводы прывялі пад Оршу 80 тыс. ваяроў, а найвышэйшы гетман Канстанцін Астрожскі меў не больш 30 тысяч. Гэта ведалі Іван Чэляднін і Міхаіл Булгакоў-Голіца, найвышэйшыя ваяводы маскоўцаў, а таму былі самаўпэўненыя. Князь Астрожскі выкарыстаў свой вопыт, здабыты ў шматлікіх бітвах з крымскімі татарамі. Два разы ён выканаў падманны манеўр. Першы — напярэдадні, калі на вачах у маскоўскага войска пераправіў некалькі тысяч коннікаў праз Днепр уброд. І непрыяцель паверыў, што пераправа будзе тут. А ўначы Астрожскі загадаў наладзіць на Дняпры недалёка ад вёскі Пашына два пантоны з пустых бочак. Калі пераправілася амаль палова войска, Чэлядніну данеслі пра гэты манеўр, але маскоўскі ваявода не даў загад пачаць бой.

Восьмага верасня раніцай абодва войскі выстраіліся ўздоўж Дняпра на полі па-над рэчкай Крапіўнай. У маскоўцаў хапала войска на тры лініі, на флангах сталі коннікі, задача якіх была зайсці ў тыл беларусам. У цэнтры знаходзіўся вялікі маскоўскі полк. Над ім узнімаўся белы сцяг.

А дзесятай гадзіне раніцы святары абодвух войскаў адслужылі малебны за перамогу. І там, і там служылі праваслаўныя святары, бо, як вядома, Канстанцін Астрожскі быў праваслаўным, як і ўсё ягонае воінства. Пасля пачаліся так званыя гарцы — паядынкі, якія заахвочвалі ўсіх ваяроў да бою. І неўзабаве пачалася бітва. Адразу абодва крылы маскоўскай арміі адышлі крыху назад, каб пачаць манеўр акружэння. Галоўныя сілы засталіся на сярэдзіне поля, ды толькі некаторыя атрады пасунуліся крыху наперад, каб выклікаць атаку непрыяцеля.

Пасля кароткай нарады («...а ў таборы трубы граюць — да нарады заклікаюць», — спяваецца ў вядомай песні пра Аршанскую бітву) князь Астрожскі загадаў вольна рушыць наперад. У маскоўскім войску затрубілі трубы да бою...

Пасля таго як была адбіта першая атака маскоўскага войска, Канстанцін Астрожскі павёў у атаку свой галоўны полк: «Вось цяпер наперад, дзеці!»

Найвышэйшаму гетману Вялікага Княства Літоўскага Канстанціну Астрожскаму было тады 54 гады. Ён лічыўся вельмі старым чалавекам. Але ён скакаў наперадзе сваіх коннікаў, з шабляй у руцэ, і заклікаў смела ісці за ім у бой. Ён першым падстаўляў сваю сівую галаву ў ахвяру.

А неўзабаве найвышэйшы гетман ВКЛ выкарыстаў другі абманны манеўр. Ён даў загад спыніць атаку і павярнуць назад. Тады Чэляднін паслаў сваю конніцу ўслед. Але гусары Астрожскага падзяліліся на дзве часткі і скочылі ўбок. Маскоўскія вершнікі апынуліся перад артылерыяй, што была схавана ў лесе. І тут іх пачалі расстрэльваць з гармат. Гэты хітры манеўр вызначыў ход бітвы. Маскоўцы кінуліся ўцякаць.

Усе расійскія гісторыкі, пачынаючы з Карамзіна, гавораць пра закончэнне бітвы аднолькава, як, прыкладам, Карамзін: «Беларускае войска ніколі яшчэ не атрымлівала такой перамогі над маскоўскім войскам». Карамзін пісаў, што ў гэтай бітве маскоўцы страцілі 30 тысяч воінаў. А, прыкладна, Салаўёў падаваў лічбу 40 тысяч. Трапілі ў палон абодва галоўныя ваяводы, восем іншых ваяводаў, 37 начальнікаў меншага рангу... Ваярам Астрожскага трапіла палова вайсковага абозу, усе маскоўскія сцягі, шмат агнястрэльнай зброі.

Вялікі князь маскоўскі Васіль III пасля заявіў, што палонных сваіх ён назад не прыме, што для яго палонныя — мёртвы чалавек. І маскоўскія ваяры знаходзіліся некалькі дзесяткаў гадоў у палоне ў розных месцах Вялікага Княства. Напрыклад, Іван Чэляднін памёр у Вільні праз два гады пасля бітвы, а Міхаіл Булгакоў-Голіца з іншымі паплечнікамі толькі ў 1552 годзе вярнуўся ў Маскову і там пастрыгся ў манахі.

Гэтая бітва, як сказаў прафесар Грыцкевіч, усталявала ўсходнюю абаронную мяжу Беларусі на сотні гадоў. Маскоўскія войскі пазней не рабілі вялікіх паходаў на тэрыторыю Беларусі. Гэтая бітва — самая вялікая бітва ў першай палове XVI ст. — праславіла беларускае войска на ўсю Еўропу. Пра яе пісалі ў тагачасных газетах, што выходзілі ў Нямеччыне, пра яе ведалі ўсе замежныя каралеўскія двары.

Аспірант Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Уладзімір Кананові ч распавёў, як апісаў бітву вядомы аўстрыйскі дыпламат і пісьменнік Герберштэйн. Аўтар славутых «Запісак аб Масковіі» падае яе ў кантэксце тагачасных палітычных падзей і згадвае пра далучэнне да Вялікага Княства Маскоўскага Ноўгарада і Пскова і бітву на рацэ Ведрашы ў 1500 годзе.

Герберштэйн перадаў цікавыя звесткі пра пераправу войска ВКЛ праз Днепр. Асаблівай увагі заслугоўвае дыялог найвышэйшага маскоўскага ваяводы Івана Чэляднінa з ягоным падначаленым. Калі яму паведамілі, што палова войска Астрожскага пераправілася праз Днепр і што трэба разбіць — знішчыць, то Іван Чэляднін адказаў так: «Я мог бы напасці на іх і знішчыць, але я пачакаю, пакуль пераправіцца другая палавіна, і тады знішчу ўсё войска разам... Урэшце нам не застанецца нічога іншага, як заняць усю Літву...»

У.Кананові ч падрабязна расказаў пра верагодныя крыніцы інфармацыі аўстрыйскага дыпламата. Герберштэйн тройчы быў у ВКЛ. І першы раз — у 1517 годзе, калі гасцяваў у Вільні. Тады з дазволу вялікага князя ВКЛ і польскага караля Жыгімонта Старога ён сустрэўся з маскоўскімі ваяводамі і з Чэляднінымі, суцяшаў іх і нават пазычыў палонным дваццаць гульдэнаў. Але Чэляднін не расказаў аўстрыйцу, што ён спрычыніўся да разгрому войска Булгакова-Голіцы — не паслаў яму дапамогі. Але пра гэта паведамляў Усцюжскі летапіс, дзе запісаны самыя поўныя звесткі пра Аршанскую бітву.

Жыгімонт Стары з сваёй стаўкі пад Барысавам вестку пра перамогу паслаў папе Рымскаму Льву X. Гэтае пасланне было надрукавана ў кнізе, што выйшла ў Рыме і была разаслана ва ўсе хрысціянскія краіны Еўропы. Герберштэйн ведаў і пра нямецкамоўнае апісанне гэтай бітвы, якое было надрукавана ў 1515 годзе, чытаў ён таксама італьянскія хронікі. У сваю чаргу твор Герберштэйна «Запіскі аб Масковіі» выкарыстоўваўся іншымі храністамі.

Пра ўзбраенне войска ВКЛ канца XV— пачатку XVII ст. распавядаў Юрась Бохан, супрацоўнік Інстытута гісторыі. Асноўную частку войска складала апалчэнне жыхароў Вялікага Княства, так званае паспалітае рушэнне. Пераважалі коннікі, хаця асобныя ваяры, якія не мелі грошай, каб купіць баявога каня, прыходзілі пешымі. І ўзбраенне не заўсёды адпавядала неабходнасці, што знайшло сваё адлюстраванне ў існаванні некалькіх тыпаў кавалерыі. Найлепей былі ўзброены капейнікі, што мелі доўгае, да пяці метраў, кап'ё. На яго канцы змяшчаўся сцяжок, як правіла, з так званым крыжам святога Юрыя. Капейнікі мелі на сабе даспехі з буйных бляшаных частак. Лягчэйшае ад капейнікаў узбраенне мелі конныя стральцы, якія стралялі з арбалетаў і рушніц. Казакі былі ўзброены па-татарску, г. зн., што яны, апроч арбалета ці рушніцы, мелі азіяцкі лук. Былі яшчэ воіны, узброеныя па-венгерску: яны мелі кап'ё-«дрэва» і шчыт. Апроч таго, былі коннікі, якія былі ўзброены па-кашубску і па-гусарску. Кавалерысты ўсіх катэгорый абавязкова мелі кароткую сечную зброю — меч, шаблю ці корд, які ўяўляў сабой варыянт мяча. У адпаведнасці з узбраеннем падбіраліся і коні. Цяжкія для капейнікаў і лёгкія для стральцоў.

Асобныя віды зброі, вайсковы рыштунак можна бачыць на карціне «Бітва пад Оршай». Пра яе расказаў выкладчык універсітэта культуры Генадзь Сакалоў-Кубай. Карціна цяпер знаходзіцца ў Варшаве. Яе памеры 1 м 62 см на 2 м 32 см. Частка карціны адрэзана — мяркуюць, што яна складала 1/5 усёй паверхні. Дакладчык згадаў усе кляштары і музеі, дзе захоўвалася гэтая карціна, якая толькі ў 1881 годзе была ідэнтыфікавана. Даследчыкі прызналі, што на ёй намаляваны эпізод бітвы пад Оршай. Доказам служылі выявы вядомых тагачасных палкаводцаў, у тым ліку і Юрыя Радзівіла, які намаляваны на самым відным месцы. Партрэты, зброя, уборы, краявід спрычыніліся да таго, што мастацтвазнаўцы называюць карціну жывапісным рэпартажам падзей. Відавочны аўтэнтызм твора пераконвае нас у тым, што аўтар быў удзельнікам бітвы пад Оршай і маляваў яе на падставе накідаў, зробленых на полі па-над рэчкай Крапіўнай.

Генадзь Сакалоў-Кубай выказаў меркаванне, каб зрабіць для Беларускага мастацкага музея копію з гэтай карціны. Гэтую нескладаную работу могуць выканаць студэнты Акадэміі мастацтваў падчас практыкі.

Прысутныя задавалі дакладчыкам пытанні пра этнічны склад войска Астрожскага. Яно было пераважна беларускім, таму што жамойты пільнавалі сваю мяжу з крыжакамі, а войскі на Украіне мусілі адбіваць напады крымскіх татар. Да войска Астрожскага была далучана польская конніца: паводле Стрыйкоўскага — 14 тысяч, а паводле Любаўскага — 4 тысячы. Прысутныя прыйшлі да згоды, што ў наступным годзе ў гадавіну Аршанскай бітвы неабходна наладзіць канферэнцыю «Вайсковая слава Беларусі».

З.СІЦЬКО.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*Ніна АКСЁНЧЫК*

# АСЕННЯЕ

Водгук ціхае споведзі значыцца
У прызнанні асенніх прыўкрас:
Калі восені многа так плачацца,
То, магчыма, за грэшных і нас.

То, магчыма, прыняўшы заведама
Усе болі людскія як ёсць,
Адбаліць ёй усё, што й паэтам!
Апяваецца як прыгажосць.

Лес чырвоны, тугою запалены,
Кране сэрца маўклівай красой.
А тут кожны лісточак паранены
Ападзе залатою слязой.

Так тужліва-трывожна агледзіцца
І патухне бурштыну касцёр.
Толькі полымем белым адсвеціцца
Іх любоў між бярозак-сясцёр.

Адгукнецца вятрамі нязванымі
Над зямелькаю голас тугі,
Што прыродзе здадуцца жаданымі
І халодныя зоркі — снягі.



*ПЫТАННЕ — АДКАЗ*

## «ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ» БУДЗЕ ВЫДАВАЦЦА І НАДАЛЕЙ

*Набыў у кнігарні «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі» — першы том. А дзе астатнія? Да каго толькі ні звяртаўся — ніхто не ведае.*

**Яўген ЛАМАНОВІЧ**, 9 клас, г.Менск.

*А вось карэспандэнт газеты «Звязда» звярнуўся з такім пытаннем адразу да выдаўца — у выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя». Адказаў загадчык рэдакцыі гісторыі Віталь Скалабан. Той абнадзеіў, што каштоўнае выданне будзе працягвацца. Матэрыялы другога тома апрацоўвае зараз Менскі паліграфкамбінат, а недзе ў кастрычніку кніга паступіць у продаж. Яе тыраж мяркуецца 20 тыс. паасобнікаў. У 2-м томе змешчаны артыкулы на літары Б, В і Г.*


КАЛІ ЗА АДРАДЖЭННЕ МОВЫ, ЧЫТАЙ, СПАДАРСТВА, «НАША СЛОВА»

ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА НАШ ШТОТЫДНЁВІК (З УЛІКАМ ПАСЛУГ СУВЯЗІ):
НА МЕСЯЦ — 100 РУБЛЁЎ;
НА 2 МЕСЯЦЫ — 200 РУБЛЁЎ.
ІНДЭКС 63865


*Леанід РАМАНЕНКА,* **настаўнік**

## РАМЕНСКІЯ СМЯШЫНКІ

Чвэрць веку адпрацаваў дырэктарам мясцовай сярэдняй школы. Па стану здароўя і ўласным жаданні колькі год звольніўся з клопатнай пасады. Аднавяскоўцы ж усё роўна пры сустрэчах і дома па прывычцы велічаюць дырэктарам. Ды нядаўна крочу вясковай вуліцай з сельмага. На абочыне асфальтаванай дарогі гуляюць трое малых хлопчыкаў 4—5 год. Павітаўшыся, двое кідаюць мне ўслед:

— Дырэктар пайшоў!..

Трэці, самы меншы, забегшы наперад, рашуча прыжмурыўшыся, удакладняе-абвінавачвае:

— А ты не дзілектал, а ты не дзілектал...

Вярнуўшыся да дзяцей, першым двум даю па цукерцы і працягваю дзве трэцяму — «праўдалюбу». Той зазірае мне ў вочы і, бачачы мой лагодны ківок, асцярожна бярэ цукерчыны, дзякуе і вяртаецца да сябрукоў. Новае пакаленне выбірае праўду.

* * *

— Ці ведаеце вы прозвішчы жанчын-кампазітараў? — пытае ў вучняў настаўнік музыкі і спеваў.

Клас доўга і зацята маўчыць. Нарэшце нясмела ўздымаецца рука: «Людміла Лядава». Яшчэ голас: Аляксандра Пахмутава. І пайшло: Эдзі Тырманд, Ларыса Рубальская, Людміла Шлег.

— І «Маня... Маню... Ма-а-анюшка?» — няўпэўнена цягне хлопчык.

* * *

На ўроку гісторыі настаўнік «па-савецку» прапагандуе «крылатыя словы» Суворава: «Цяжка ў вучобе — лёгка ў баі».

Вучню дома здалося, што генералісімус не зусім дакладна акрэсліў сваю думку. Пры адказе на наступным уроку ён «падправіў» палкаводца: «Лепей біцца, чым вучыцца».

* * *

Жыў у вёсцы хлопчык-выхваляка Юрка (Орка). Усе ведалі, што часта сказанае ім — далёка ад праўды, але моўчкі слухалі яго небыліцы. Як «мастацкую творчасць». Ды не сцярпеў аднойчы яго сусед па парцэ: «Ну ты і брэшаш, Орка!»

Той у адказ:

— А дзе я вам праўды на кожны дзень набяруся?..

* * *

Зайшоў неяк у магазін суседняй вёскі. На прылаўку ляжаць пернікі.

— Свежыя? — пытаюся ў прадаўшчыцы.

— Так, мяккія, — ветліва адказвае тая. — Не верыце? Палапайце самі...

* * *

У суседнім старажытным Давыд-Гарадку з сівой даўніны (можа, з часоў татара-мангольскага нашэсця) замацаваліся адметныя прозвішчы гараджукоў: Ажог, Гуня, Пуп і інш. Рамелец вазьмі ды і перастаў іх у такой паслядоўнасці: Гуня—Ажог—Пуп.

Атрымалася абракадабра ў стылі «трасянкі».

в.Рамель,
Століншчына.

## З ГЛЫБІНЬ СТАГОДДЗЯЎ

У Віцебску завяршыліся археалагічныя раскопкі на тэрыторыі старажытнага Верхняга Замка. На розных узроўнях пад двух-пяціметровым земляным пластом супрацоўнікі АН Беларусі і сектара аховы помнікаў гарвыканкама знайшлі разнастайныя прадметы матэрыяльнай культуры і рэшткі гарадской забудовы XII—XVII стст.





**На здымках**: 1. Прылады працы і ліцейная форма для вырабу упрыгожванняў (XII—XIII стст.). 2. Прадметы побыту і ўпрыгожванні гараджан (X—XIV стст.).
**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.**


Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.[illegible], 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь [illegible], Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865 Замова 40

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7251 паасобнік.
Падпісана ў друк 3.10.1994 г. у 15 гадзін.


© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014